НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 33 (726) 7 верасня 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГА…

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходз… …а,



## Жонкі футбалістаў БАТЭ

Спадарожніцы жыцця адкрылі душу карэспандэнтцы «НН». Старонка 8.

# 500 тысяч замест 500 даляраў

Выплаты бюджэтнікам і пенсіянерам разгоняць грашовы станок. Старонка 5.




PHOTO.BYMEDIA.NET

**Тэндэнцыі**

## Мінэканомікі прагназуе інфляцыю большую за 100%

Тым часам курс даляра трохі апусціўся — **да 8500**.

Міністэрства эканомікі прагназуе інфляцыю за год большую за 100%. Міністэрства разглядае тры сцэнары развіцця сітуацыі, але пры ўсіх іх рост цэн будзе вымярацца трохзначнымі лічбамі, паведамляе агенцтва «Інтэрфакс».

Афіцыйна, інфляцыя ў Беларусі за студзень-чэрвень склала 41%. Пры гэтым большасць тавараў у рэальнасці ўжо падаражэла ў 2 разы.

Тым часам курс даляра на чорным рынку валюты прыпыніў свой рост. Пасля ашаламляльнага падзення на мінулым тыдні рубель адыграў каля 200 за даляр. З максімуму 8700 курс апусціўся да 8500 рублёў.

Фінансавыя колы чакаюць 15 верасня, калі вызначыцца новы курс даляра. Прадаўцы спадзяюцца, што ім ўдасца прадаць валюту за 10 тысяч рублёў і больш, а купцы — што грошы з'явяцца ў абменніках па курсе, набліжаным да афіцыйнага.

**Ягор Марціновіч**

**Крымінал**

## Рабаўнікі ўлезлі ў дом брэсцкага мільянера?

З катэджа ў прэстыжным раёне вынеслі 18 тысяч даляраў. **Старонка 10.**

**Грамадства**

## Коля і дзеці

Малодшы сын Лукашэнкі пайшоў вучыцца ў эксклюзіўную вясковую школу. **Старонка 6.**



**Каляндар**

## 8 верасня — Дзень беларускай вайсковай славы

Віншуем усіх мужчын!



# Эканомім на здароўі: «сінтэтычная» школьная форма

Сёлета ў Беларусі цяжка знайсці школьную форму айчыннай вытворчасці з натуральных валокнаў.

55% поліэстэру і 45% віскозы — яшчэ ў найлепшым выпадку. Часцей трапляюцца строі, вырабленыя цалкам з паліэстэру. І гэта для школьніка!

Рэпарцёрка «НН» наведала ўнівермаг «Беларусь». Дадатковыя секцыі дзіцячай вопраткі арганізаваныя адразу на ўваходзе. Першым трапляецца пад руку бліскучы пінжак для хлопчыкаў фабрыкі «Камінтэрн». Склад: 63% поліэстэр, 34% віскозы і 3% спандэкс. Побач вісіць даволі падобны строй ад «Баранавіцкай швейнай фабрыкі»: 65% паліэстэру і 35% віскозы.

### «Абарона ад электрамагітнага выпраменьвання»

А вось навіна ад «Славянкі» — пінжак, уладальніку якога гарантуецца «абарона ад электрамагітнага выпраменьвання». Ці прасцей — ад мабільнага тэлефона. Як пазначана на этыкетцы, матэрыял прайшоў выпрабаванне ў Інстытуце прыкладной фізікі Акадэміі навук! І што за цудадзейная высокатэхналагічная матэрыя? Ха! 63% поліэстэр, 34% віскозы і 3% спандэкс.

«З бавоўны дакладна нічога не знойдзеце», — кажа Наталля Шакун, прадавачка.

«Іх зараз проста не вырабляюць, — дадае яе калега. — Дарагія, мабыць. Часам трапляюцца паўшарсцяныя строі, але іх хутка разбіраюць».

Тым часам адна бабуля раіць мне пашукаць баваўняныя пінжакі ад фабрыкі «Маруся».

У пошуках «Марусі» падымаюся на трэці паверх у секцыю дзіцячага адзення. Знаходжу модны, не падобны да іншых пінжачок гэтай маркі. Ну вось, дзякуй богу, — 97% баваўна, 3% эластан. Але цана амаль у тры разы вышэйшая за «сінтэтычны» аналаг — 249 900 рублёў (побач вісіць пінжак іншага беларускага вытворцы ўсяго за 87 890 рублёў).

### Сінтэтычнае — нездаровае

Як уплывае сінтэтычная вопратка на здароўе і самаадчуванне дзяцей? Якая доля поліэстэру і віскозы дапушчальная?

Дактары адназначна выказваюцца наконт «ненатуральных» тканінаў. Сінтэтыка правакуе назапашванне статычнай электрычнасці і прыводзіць да дыскамфорту, уплывае на цэнтральную нэрвовую сістэму, а пылінкі, бруд, мікраарганізмы «прыліпаюць» да вопраткі.

Да таго ж, сінтэтыка парушае і паветрапранікальнасць тканіны, у выніку чаго цела «не дыхае», дзіця пацее, пераахалоджваецца і хварэе.

У Еўропе добрыя фірмы шыюць для дзяцей адзенне з бавоўны і воўны.

### «Для ўрачыстых выпадкаў»

Па каментар мы звярнуліся да загадчыцы аддзелам гігіены дзяцей і падлеткаў Рэспубліканскага цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Алы Малахавай.

«Каб такія паказнікі, як паветрапранікальнасць і гігіраскапічнасць адпавядалі норме, доля сінтэтычных валокнаў у строях не павінна перавышаць 67%. Для кашуляў і блузак — да 40%. Калі ж склад тканіны — чыстая сінтэтыка, то пазначаецца, што гэта строй «для ўрачыстых выпадкаў», — кажа Малахава.

Такім чынам, беларускія вытворцы не парушаюць заканадаўства, вырабляючы адзенне з высокай доляй утрымання сінтэтыкі. У іншым выпадку іх прадукцыя для большасці насельніцтва будзе не па кішэні.

**Аксана Рудовіч**






## Сцісла

### Страх перад Народным сходам

У Гомелі затрыманы актывісты, якія збіралі подпісы ў падтрымку Сходу. Супрацоўнік Чыгуначнага РАУС лейтэнант Голубеў затрымаў Паўла Прывалава і Ільлю Міронава проста на вуліцы. Ініцыятыўная група запланавала правесці Народныя сходы 8 кастрычніка ў розных гарадах краіны.

### Гарадская электрычка Мінск—Заслаўе

Беларуская чыгунка адкрые яе рэгулярны рух 10 верасня. Швейцарскага вырабу электрычкі будуць хадзіць 18 разоў на дзень з 5.00 да 21.00.

### А сына ніхто не верне

Маці Яўгена Рапуты адсудзіла ў «Пінскдрэва» 30 млн рублёў кампенсацыі. Яе сын загінуў у пажары ў мінулым годзе разам з 13 калегамі па працы.

### Зямлю дадуць будавацца, а не прадаваць

Зямельныя ўчасткі, набытыя ў спекулятыўных мэтах, будуць канфіскоўвацца. Пра гэта заявіў журналістам намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Калінін. Зараз, калі атрымаў участак па чарзе, прадаць яго можна будзе толькі праз восем гадоў.

**см**

## Праваабаронца Бяляцкі месяц як за кратамі



Алесь Бяляцкі акумуляваў грошы на дапамогу рэпрэсаваным, зніклым і іх сем'ям. Легальна займацца такой дзейнасцю ў Беларусі было немагчыма. Яго затрымалі 4 жніўня. Цяпер праваабаронцу трымаюць на Валадарцы ў Мінску. У Дэпартамент фінансавых расследаванняў МУС пададзена ўжо больш за 800 хадайніцтваў аб змяненні меры стрымання Бяляцкаму з асабістымі паручальніцтвамі.



AL-JAZEERA.NET

### Міжнародныя сувязі

### У лівійскім КДБ знайшлі брашуру «Белтэхэкспарта»

Лівійскія паўстанцы дазволілі рэпарцёрам наведаць захоплены будынак спецслужбы. Што цікава, на фоты агенцтваў трапіў і каталог беларускага экспарцёра ўзбраенняў «Белтэхэкспарта». Гэта кампанія на чале з Пефціевым трапіла пад санкцыі Еўрасаюза. У Трыпалі паперы маглі трапіць і выпадкова: такія раздаюць на любой выставе ўзбраенняў.

**сг**

## «Советская Белоруссія» адцэнзуравала Ермакову

«Не больш за 10 тысяч».

Старшыня праўлення Нацыянальнага банка Надзея Ермакова растлумачыла стратэгію ўлад па ўрэгуляванні сітуацыі на валютным рынку. «Мэта — знайсці залатую сярэдзіну курса, якая сапраўды будзе адлюстроўваць рэальнасць», — заявіла Ермакова ў інтэрв'ю агенцтву Інтэрфакс-Захад.

Прагназуючы развіццё сітуацыі, яна адзначыла: «Я не думаю, што курс скочыць у «завоблачнасць», бо на чорным рынку ён цяпер сфармаваўся на ўзроўні 10 тысяч за даляр і больш за 10 тысяч ён не вырасце».

Цікава, што рупар прэзідэнтуры «Советская Белоруссія» гэтае выказванне Ермаковай адцэнзуравала. Пакінулі толькі: «Я не думаю, што курс скочыць у «завоблачнасць». Відаць, рэдактар газеты рашыў, што лічба «не больш за 10 тысяч» можа шакаваць вернападданага чытача.

**Сяргей Гезгала**

### Самае чытанае на nn.by ад 31 жніўня да 6 верасня

1 Коля Лукашэнка пайшоў вучыцца ў эксклюзіўную школу ў Астрашыцкім Гарадку

2 Відэа: Супрацоўнікі ДАІ Касцюковічаў затрымліваюць п'яных расейцаў

3 Срэбраны Лукашэнка. Усяго за тысячу даляраў +фота

4 У захопленым паўстанцамі будынку лівійскай разведкі знайшлі папкі «Белтэхэкспарта»

5 «Паўстаньце, рабскія натуры…» — фотафакт

6 «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі» вяртаецца 21 верасня

7 У Мсціславе расіяне пабіліся з беларусамі ў чарзе па прадукты

8 Мінэканомікі прагназуе інфляцыю большую за 100%

9 Ермакова: Даляр больш за 10 000 не вырасце

10 «П'яную рускую дзевачку», затрыманую ў Касцюковічах, аштрафавалі толькі за хуліганства

# На дыялог запрашаюць «казлоў», а не «пятую калону»

**Вызваленне палітвязняў, а таксама магчымы шматбаковы дыялог паміж беларускімі ўладамі, апазіцыяй, Еўрасаюзам і Расіяй, застаюцца галоўнымі палітычнымі тэмамі.**

### Таемная сустрэча з балгарскім міністрам

Агенцтву Reuters стала вядома, што 26 верасня Аляксандр Лукашэнка меў таемную сустрэчу з балгарскім міністрам замежных справаў Мікалаем Младзенавым. Гэта адпавядае той інфармацыі, якой валодала рэдакцыя «НН».

«Кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка спрабуе паправіць напружаныя адносіны з Еўрасаюзам шляхам вызвалення палітвязняў і правядзення перамоваў з палітычнымі апанентамі», — напісала агенцтва.

Па выніках візіту Младзенаў накіраваў ліст міністру замежных справаў Еўрасаюза Кэтрын Эштан. Младзенаў адзначыў, што Лукашэнка згадзіўся вызваліць чатырох палітвязняў цягам тыдня.

### Чацвёра палітвязняў на волі

У выніку так і сталася. 1 верасня на волі апынуліся Алесь Кіркевіч, Андрэй Пратасеня, Алег Гнедчык і Зміцер Даронін. Гэтыя хлопцы падпісалі прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі. У першай палове жніўня з той самай прычыны былі вызваленыя яшчэ дзевяцера ўдзельнікаў пратэстаў 19 снежня.

Тым не менш, многія палітвязні катэгарычна адмаўляюцца падпісваць прашэнні. Гэта тычыцца як кандыдатаў у прэзідэнты Андрэя Саннікава, Міколы Статкевіча, Дзмітрыя Уса, так і простых удзельнікаў, як Павел Вінаградаў ці Фёдар Мірзаянаў. Апошняму ўжо двойчы прапаноўвалі напісаць прашэнне.

Младзенаў таксама адзначаў, што супраць двух чалавек будуць зьнятыя абвінавачванні. Магчыма, гаворка вядзецца пра Алеся Бяляцкага. Тым не менш, Бяляцкі ўжо месяц за кратамі і не выглядае, каб бліжэйшым часам яго маглі адпусціць.

Усе астатнія палітвязні павінны выйсці на свабоду ў кастрычніку. Сустаршыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, палітвязень Павел Севярынец мяркуе, што арыштаваныя могуць апынуцца на волі толькі пасля 8 кастрычніка, калі пройдуць Народныя сходы.


Шчаслівы Андрэй Пратасеня ў першыя гадзіны пасля вызвалення з калоніі.
Сяргей Гудзілін

### Ці запросяць «пятую калону»?

Таксама Лукашэнка паабяцаў правядзенне круглага стала з апазіцыяй. На яго будуць адкамандзіраваныя «мудрыя мужы» з Еўрасаюза, каб аблегчыць перамовы.

Тым не менш, узнікае ўсё болей сумневаў, ці будзе праведзены гэты дыялог. Дзяржаўныя прапагандысты аднаназначна сказалі, што заявы накіраваныя не апазіцыі, а Еўрасаюзу.

Рэдактар «Беларускай думкі» Вадзім Гігін лічыць, запрашэнне да размоваў не датычыць «тых сілаў, якія ў сапраўднасці з'яўляюцца пятай калонай». Таму апазіцыя, якая ставіць на мэце сыход Лукашэнкі, можа проста не апынуцца за круглым сталом.

Цікава, што на словы аб дыялогу ўжо адрэагавалі былы лідар сацыял-дэмакратаў Анатоль Ляўковіч. На старонках «Советской Белоруссии» ён разам з некаторымі паплечнікамі заявіў аб сваёй гатоўнасці да перамоваў. Магчыма, Ляўковіч і будзе адным з тых «іншадумцаў, што любяць сваю краіну».

### Не вызваленне, а рэабілітацыя

Младзенаў лічыць, што выкананне гэтых нешматлікіх абяцанняў дазволіць Еўрасаюзу ўдзельнічаць у падтрымцы Беларусі.

«Беларусь спрабуе гуляць у заўсёдную гульню, але на гэты раз яна не спрацуе. Мінск спрабаваў атрымаць дапамогу праз традыцыйныя каналы ў Італіі і Літве, але атрымаў адмову. Удалося заангажаваць у гэта Балгарыю», — кажа крыніца ў Еўрасаюзе.

На гэты раз проста вызвалення палітвязняў мала. Пасол Вялікабрытаніі Розмары Томас сказала, што патрэбнае не толькі вызваленне, але і рэабілітацыя асуджаных. Бо без рэабілітацыі людзі не змогуць нармальна працаваць. Можна меркаваць, што на гэты раз пазіцыя Еўрасаюза будзе нашмат больш жорсткай, чым папярэднія разы.

**Зміцер Панкавец**

---

**Апытанне**

# Як можа адбыцца сыход Аляксандра Лукашэнкі?

Якім чынам можа адбыцца сыход Аляксандра Лукашэнкі з улады, ці можа гэта стацца вынікам перамоваў уладаў, Еўрасаюза і апазіцыі, наколькі далёкая перспектыва сыходу кіраўніка краіны?

«Наша Ніва» звярнулася з гэтымі пытаннямі да галоўнага рэдактара часопіса ARCHE Валерыя Булгакава, польскага палітолага Каміля Клысінскага і дырэктара даследчых праграм Фінскага інстытута міжнародных дачыненняў Аркадзя Мошэса. Звярнуліся мы і да рэдактара прэзідэнцкага часопіса «Беларуская думка» Вадзіма Гігіна, але ён адказваць адмовіўся.

**«Наша Ніва»: Якім чынам Лукашэнка можа сысці з улады? Якія бачацца сцэнары?**

**Валеры Булгакаў:** Можа адбыцца легальна ці нелегальна. У першым выпадку, калі Лукашэнка прайграе адны з наступных выбараў. Аднак практыка постсавецкіх аўтакратыяў паказвае, што гэты варыянт не дзейнічае. Беларусь сваёй палітычнай формай вельмі нагадвае Лацінскую Амерыку. Дык вось там найбольш папулярныя шляхі — гэта вайсковы путч, элітныя змовы. Яшчэ масавыя хваляванні, якія робяць немагчымай працу кіраўніка, яго адміністрацыі. Гэты сцэнар здарыўся і на постсавецкай тэрыторыі. Хаця для яго трэба перадумовы. Напрыклад, перад Рэвалюцыяй ружаў Шэварнадзэ некалькі месяцаў не плаціў заробак прадстаўнікам мясцовых спецслужбаў.

**Каміль Клысінскі:** Фармальна, Лукашэнка можа не балатавацца на наступных выбарах. Але мы добра ведаем Лукашэнку, ягоны менталітэт. Ён любіць уладу і лічыць, што павінен заставацца пры ёй. Тады трэба разглядаць іншыя варыянты. Напрыклад, вулічныя пратэсты. Толькі маштабныя. У звязку з гэтым ягонае атачэнне можа прыйсці да высновы, што трэба нешта мяняць.

**Ёсць перспектывы ягонага сыходу раней. »**

**Аркадзь Мошэс:** Лукашэнка сыходзіць нікуды не збіраецца. Становішча ў краіне для яго не крытычнае. Пакуль Лукашэнка сам не захоча сыходзіць, то абмяркоўваць гэтае пытанне заўчасна.

**«НН»: Ці можа адбыцца перадача ўлады ў выніку перамоваў Лукашэнкі з Еўрасаюзам, Расіяй і апазіцыяй?**

**ВБ:** Вельмі малаверагодна. Увесь дух кіравання Лукашэнкі паказвае, што добраахвотна сваю пасаду ён не аддасць. Патрабаванні Еўрасаюза таксама досыць бяззубыя. Ранейшы досвед перамоваў пад эгідай еўрапейскіх структураў толькі ўмацоўваў уладу, варта згадаць Ганса-Георга Віка.

**КК:** Па ўласнай волі не адбудзецца. Толькі калі гэта будзе рашэнне не ягонае, а, скажам, Расіі і наменклатуры. Калі Лукашэнка знойдзе грошы для ўтрымання эканомікі, то ўсё для яго будзе ў парадку.

**АМ:** З улікам усіх характарыстык Лукашэнкі, ён не аддасць уладу добраахвотна. Ён не той чалавек, які можа паверыць у гарантыі з боку Еўрасаюза і Расіі. У прынцыпе, я і не бачу, каб Еўрасаюза быў зацікаўлены ў такіх гарантыях.

**«НН»: Нядаўна палітвязень Андрэй Саннікаў напісаў з турмы, што Лукашэнка сыдзе цягам гэтага года. Ці рэальны такі сцэнар?**

**ВБ:** Такія выказванні раздаюцца дзесьці з канца 1990-х. Сакрэт поспеху мог бы быць у прывабнай альтэрнатыве Лукашэнкі, але яе не назіраецца. Доўгатэрміновы крызіс павінен быў стаць зорным часам для апазіцыі. Аднак яна не пачала яшчэ набіраць на гэтай сітуацыі палітычныя ачкі. Тым не менш, да апошняга я заставаўся песімістам, думаў, што Лукашэнка можа кіраваць да смерці. Цяпер я бачу, што ёсць перспектывы ягонага сыходу раней. Калі Лукашэнка будзе кіраваць пажыццёва, то гэта дасць нейкую ўстаноўку і наступнаму кіраўніку. Для дэмакратычнага шляху Беларусі вельмі важна, каб змены адбыліся яшчэ пры жыцці дзейснага лідара.

**КК:** Ва ўмовах цяжкай эканамічнай сітуацыі, калі тысячы рабочых будуць на вуліцах. Мне здаецца, што да рэвалюцыі яшчэ далёка. Магчыма, што позняй восенню людзі, незадаволеныя сваім дабрабытам, выйдуць на вуліцу. Але апазіцыя занадта слабая. Такімі пратэставымі настроямі хутчэй можа скарыстацца Расія і бліжэйшае кола Лукашэнкі.

**АМ:** Канечне, нельга выключаць лавінападобнага нарастання масавых пратэстаў. Аднак змена ўлады ўжо сёлета крайне малаімаверная. Сітуацыя ў Беларусі не такая, каб Лукашэнка быў вымушаны тэрмінова пакінуць пасаду.

**Запісаў ЗП**

---

**Сціслa**

**Беларуская апазіцыя паехала ў Варшаву**

Аляксандр Мілінкевіч, Уладзімір Някляеў, Сяргей Калякін, Станіслаў Шушкевіч і Аляксей Янукевіч наведалі Варшаву. Адбыліся сустрэчы з прэм'ер-міністрам Дональдам Тускам і міністрам замежных справаў Радаславам Сікорскім.

**У Мінску прайшла акцыя ў памяць пра Алега Бябеніна**

Актывісты «Еўрапейскай Беларусі» ўшанавалі 3 верасня памяць заснавальніка сайта charter97.org Алега Бябеніна ў гадавіну яго смерці. Год таму Бябеніна знайшлі нежывым на ўласным лецішчы. Гэтая смерць пакідае шмат пытанняў.

**Інфармацыя пра здароўе Лукашэнкі стане даступнай**

На сайце Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў размешчаны праект Закона «Аб доступе да інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў». Згодна з праектам, вызначаецца інфармацыя, да якой не можа быць абмежаваны доступ. У тым ліку аб стане здароўя службовых асоб, якія займаюць пасады, уключаныя ў пералік вышэйшых дзяржаўных пасад Беларусі.

**ЗП, КМ**

# Лукашэнка праігнараваў юбілейны саміт СНД

**На выходных у таджыкскім Душанбэ прайшоў саміт Садружнасці незалежных дзяржаў.**

Спатканне кіраўнікоў адзінаццаці постсавецкіх краінаў было прымеркаванае да 20-х угодкаў стварэння арганізацыі. На саміт прыехалі прэзідэнты, якія не надта часта наведваюць падобныя мерапрыемствы. А вось Лукашэнка вырашыў застацца на Радзіме.

«Яго няма, таму што ён заняты вострымі пытаннямі, звязанымі з валютна-фінансавымі рэгуляваннямі ў Беларусі», —заявіў Сяргей Мартынаў. Спробы апраўдацца выглядалі крыху няўклюднымі.

Тым не менш, асаблівай увагі расійскія СМІ адсутнасці Лукашэнкі не надалі. Толькі некаторыя паспрабавалі ўбачыць у гэтым дрэйф беларускага лідара да Еўрапейскага саюза.

Беларусь у Душанбэ прадстаўляў Міхаіл Мясніковіч. «Прэм’ер-міністр Беларусі надзелены ўсімі паўнамоцтвамі для таго, каб беларуская дэлегацыя змагла паўнацэнна і эфектыўна працаваць на саміце ў Таджыкістане», — адзначыў кіраўнік прэс-службы Лукашэнкі Павел Лёгкі.

Мясніковіч на саміце меў спатканне з расійскім калегам Уладзімірам Пуціным. Абмяркоўвалі пытанні нафтагазавага комплексу. Увогуле ж, расіяне ў Душанбэ імкнуліся падкрэсліць, што СНД ім менш важны за Мытны саюз і АДКБ, у якіх удзельнічае і Беларусь.

**ЗП**



Міхаілу Мясніковічу (на заднім плане) пакуль няёмка ў кампаніі з прэзідэнтамі.



Апошнія дзевяць месяцаў імя Наталлі Пяткевіч з’яўлялася толькі ў сувязі са спартовымі спаборніцтвамі па фрыстайле і горных лыжах.

PHOTO.BYMEDIA.NET

## Пяткевіч узначаліла лукашэнкаўскую канцылярыю

Аляксандр Лукашэнка 1 верасня сваім распараджэннем назначыў Наталлю Пяткевіч сваім памочнікам. Уладзімір Мацвяйчук вызвалены ад гэтай пасады ў сувязі з выхадам у адстаўку.

Фактычна, Мацвяйчук узначальваў лукашэнкаўскую канцылярыю. Да яго гэтую пасаду займаў Уладзімір Макей, які потым пайшоў на павышэнне. Можна сказаць, што чыноўнік на гэтай пасадзе мае блізкі доступ да «цела».

Да снежня 2010 года Наталля Пяткевіч працавала першай намесніцай кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Незадоўга да адстаўкі ў Пяткевіч адбылася інтэрнэт-перапалка з тагачасным кіраўніком Белтэлерадыёкампаніі Аляксандрам Зімоўскім.

У выніку абодва ідэолагі працу страцілі, нібыта іх прызналі вінаватымі ў рэзкім зніжэнні рэйтынгу Лукашэнкі. Зімоўскі пераехаў працаваць у Санкт-Пецярбург, піша матам пра сітуацыю ў Беларусі, а вось Пяткевіч праз нейкі час спатрэбілася на Радзіме.

Чуткі адпраўлялі яе то на пасаду міністра юстыцыі, то ў кіраўніцтва «Прыёрбанка», то ў міністры культуры. На справе ж апошнім часам яе можна было пабачыць толькі на спартовых імпрэзах — Пяткевіч узначальвае федэрацыі фрыстайла і горных лыжаў.

«Я знаходжу спонсараў — нагамі, галавой, рукамі!» — крычала Пяткевіч на пасяджэнні Нацыянальнага алімпійскага камітэта за тыдзень да вяртання ў вышэйшыя эшалоны ўлады. Магчыма, Лукашэнку спадабалася такая рыторыка.

**Зміцер Панкавец**

**Наталля Пяткевіч**

нарадзілася ў 1972 у Мінску. Скончыла юрфак БДУ (1994). У 2001 была прызначаная прэс-сакратаром Лукашэнкі. З 2004 — намесніца кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. У 2006 ёй быў забаронены выезд у краіны Еўрасаюза і ЗША. Кандыдат юрыдычных навук.

## «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі» вяртаецца: акцыя 21 верасня

Маўклівыя акцыі пратэсту маюць ізноў адбыцца 21 верасня, паведамляюць арганізатары «маўклівых рэвалюцый» ў сацыяльнай сетцы «Вконтакте».

Відаць, што арганізатары вагаліся. З аднаго боку, на аватарцы суполкі напісаная дата 21 верасня. З іншага — раней меркавалася, што масавая акцыя пратэсту ва ўсёй краіне адбудзецца 14 верасня, а 19-й гадзіне. Месца збору застаецца нязменным: цэнтральная плошча горада.

Цікава, што на гэты раз «сеткавыя рэвалюцыянеры» будуць працаваць сумесна з некаторымі палітычнымі лідарамі. Адной з мэтаў акцыі 21 верасня будзе інфармаванне грамадзян пра Народны сход 8 кастрычніка.

Мяркуецца, што менавіта на Народным сходзе будзе прынятае канчатковае рашэнне аб фармаце «маўклівых акцый». «Як народ вырашыць, так і будзе», — кажуць арганізатары.

Вечары Апладысментаў праходзілі ў Беларусі з чэрвеня па ліпень, кожную сераду. Людзі збіраліся на цэнтральных плошчах некалькіх дзясяткаў гарадоў, каб моўчкі ці праз апладысменты выказаць сваю нязгоду з дзяржаўнай палітыкай. Некаторыя акцыі ў Мінску збіралі да 5 тысяч чалавек.

**Ягор Марціновіч, ЗП**

**Каментар**

## Круглы стол: ці магчымая дэлукашызацыя?

**Лукашэнка загаварыў пра перамовы.**

І гэтым разам то не ілюзія. Не з добрай волі. Даляр па 10 тысяч рублёў і рост цэнаў штотыдзень — вось чаму ён паслаў (заўважце: Еўрасаюзу, а не апазіцыі) сігналы гатоўнасці да перамоваў.

Што можа прапанаваць Лукашэнка? Набор саступак праглядаецца з рыторыкі і дробных зрухаў.

Па-першае, напэўна, паступова вызваляць палітвязняў.

Па-другое, метамарфозы «Белай Русі» даюць падставы меркаваць, што наступныя выбары ў палату прадстаўнікоў пройдуць па змяшанай сістэме. Магчыма, лукашэнкаўскія мудрацы будуць ізноў спакушаць апазіцыю перспектывай пропуску яе дозы ў парламент.

Па-трэцяе, імаверна, будзе гатоўнасць прапусціць на выканаўчыя, а не рашэннятворныя пасады шэрагу незалежных экспертаў.

Але няма ніякіх прыкмет, што Лукашэнка гатовы дэмантаваць ідэалагічную вертыкаль і прапагандысцкі апарат, дэпалітызаваць, г.зн. дэлукашызаваць сілавыя структуры, без чаго любыя размовы пра дэмакратыю будуць смеху вартыя.

Па сутнасці, без дэмантажу каркаса дыктатуры круглы стол і любыя ягоныя рашэнні — гэта ўсё абяцанкі-цацанкі, якія Лукашэнка растопча, як толькі выблытаецца з эканамічнага крызісу.

На круглы стол можна ісці, трымаючы ў галаве задачы першага і другога парадку.

Што датычыць пункта 1, важна вызваліць не толькі ахвяраў Плошчы, але і Бяляцкага, і Аўтуховіча, аднавіць на працы адвакатаў.

Што да пункта 2, важная форма выбараў, а не вынік. Ярмошына мусіць сысці, а галасы павінны лічыць празрыста, пры ўдзеле прадстаўнікоў апазіцыі. І без розніцы, хто трапіць у новы парламент.

Калі браць задачы другога парадку, то мэтай круглага стала для грамадства павінна стаць распрацоўка дарожнай карты дэмантажу дыктатуры. Для гэтага трэба змяніць не персону, а сістэму.

Лукашэнку больш няма чым пахваліцца. Ягоная эканамічная мадэль прывяла да крызісу, нізкая кампетэнтнасць ягонай каманды выявілася ва ўсёй красе. Што да народнай падтрымкі, яе больш няма. Калі б Лукашэнка сёння выйшаў на вуліцу без аховы, баюся, гэта мела б трагічныя наступствы.

У Польшчы Круглы стол даў гарантыі мірнага дэмантажу сістэмы і «тлустай рысы» пад мінулым. Гэта адбывалася па ясных схемах: «ваш прэзідэнт, наш прэм’ер», «ваш сенат, наш сейм» і г.д. У Беларусі ўсё складаней, бо эканамічны ўплыў Расіі большы, а задачы яе няясныя.

Грамадству — бізнэсу, інтэлектуалам, СМІ, праваабаронцам, ініцыятарам маўклівых пратэстаў і камукольвек — варта падтрымаць Круглы стол перамовы, калі такі арганізуецца і заахвоціць апазіцыю да ўдзелу ў ім. І пры гэтым памятаць: грамадства толькі тады чагосьці даб’ецца на круглым стале, калі спалучыць яго з мабілізацыяй пратэставай актыўнасці.

Толькі магутны вулічны ціск зробіць круглы стол сапраўдным, а не фіктыўным. Калі дэманстрацый не будзе, апазіцыю ўцягнуць у кулуарныя шашні, а новы «дыялог» скончыцца тым, чым і вікаўскі 1999 года: новымі турмамі і дэградацыяй.

**Андрэй Дынько**

# Замест $500 абяцаюць 500 тысяч рублёў

Выплаты бюджэтнікам і пенсіянерам разгоняць **грашовы станок** да шалёных тэмпаў.

«500 тысяч рублёў кожнаму бюджэтніку!» — гучнае абяцанне, якое даў Аляксандр Лукашэнка падчас нарады па пытаннях сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, можа адбіцца рэхам па тэмпах росту інфляцыі. Выглядае, што ўлады не адмаўляюцца ад выплаты «адкупных» за эканамічны крызіс. Значыцца, грашовы станок закруцціца з яшчэ большай хуткасцю.

### Кошт аднаго абяцання

Паводле афіцыйных падлікаў, яшчэ летась у Беларусі стала больш чым 2,5 мільёна пенсіянераў. Рознагалоссі, ці атрымаюць дапамогу пенсіянеры, якія працуюць, зняў віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік. «Узровень даходаў вызначыць даволі складана, таму было прынята рашэнне аказаць падтрымку ўсім бюджэтнікам і пенсіянерам, — заявіў ён. — У далейшым узмацненне сацыяльнай падтрымкі будзе ажыццяўляцца праз павелічэнне памераў пенсій». Як вынік, адзінаразовая дапамога ўсім пенсіянерам Беларусі складзе як мінімум 1,25 трыльёна рублёў.

Пытанне бюджэтнікаў б'е па бюджэце не так моцна. Тым не менш, калі ўлічыць, што іх колькасць складае каля 500 тысяч чалавек, абяцанне Лукашэнкі дадае да выдаткаў яшчэ мінімум 250 мільярдаў рублёў.

Такім чынам, адзінаразовая дапамога беларусам «на бульбу» пацягне на 1,5 трыльёна рублёў. Калі яны апынуцца ў звароце, гэта павялічыць грашовую масу яшчэ на 18%!

### Запраграмаваная інфляцыя

Сітуацыя з «500 тысячамі рублёў» з'яўляецца поўнай копіяй мінулагодніх «500 даляраў», якія мелі атрымаць беларусы пад выбары. Горкі вопыт не стаў урокам на будучыню.

Белстат лічыць, што рост цэнаў з пачатку года складае каля 50%. Велізарная колькасць наяўных грошай, якая апынецца ў руках беларусаў, зноў падсцябне попыт — і на тавары, і на валюту на чорным рынку. Вынік лёгкапрадказальны. Гэта і рост даляра, і чарговы скачок цэнаў. У дадатак, такія дзеянні не дазволяць атрымаць чарговы транш выратавальнага крэдыту ЕўрАзЭС.

Але дарма меркаваць, што ўлады вырашылі скарыстацца прынцыпам «яшчэ разок — і ўсё», і пасля верасьнёўскіх «500 тысяч рублёў» станок нарэшце будзе выключаны. З лістапада спатрэбіцца друкаваць яшчэ больш рублёў, бо ўлады наабяцалі павялічыць, апроч пенсій, яшчэ і тарыфную стаўку першага разраду.

**Ягор Марціновіч**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Чарга па мяса каля халадакамбіната ў Мінску.

| | красавік | верасень |
|---|---|---|
| Сыравэнджаная каўбаса | 30 000 — 40 000 | 55 000 —120 000 |
| Вараная каўбаса | 15 000 | 25 000 — 30 000 |
| Курыца | 10 000 | 20 000 |
| Свініна (філе) | 20 000 | 40 000 — 50 000 |
| Ялавічына (філе) | 25 000 — 35 000 | 50 000 — 60 000 |

# Пасільная дапамога ад Нацбанка

**Як удала скарыстацца** аплатай «па курсе Нацбанка»?

Пакуль чорны рынак аперыруе лічбамі, блізкімі да 9000 рублёў за даляр, Нацыянальны банк Беларусі трымаецца да апошняга. Ён усё яшчэ горда рапартуе, што даляр каштуе 5186 рублёў. Ну і няхай — заніжаны курс валюты дае беларусам некаторыя перавагі. «Наша Ніва» нагадвае, як скарыстацца імі напоўніцу.

### Застрахаваць машыну альбо сваё здароўе за мяжой

Аплаціць абавязковае аўтастрахаванне і «АўтаКАСКО» можна ў любой валюце, у тым ліку і ў беларускіх рублях. Праўда, тады і страхавыя выплаты будуць выдавацца па курсе Нацбанка. У любым выпадку, гэта выгадна — рана ці позна дэвальвацыя ўсё ж мае адбыцца, таму выплаты пойдуць ужо па новым курсе. Праўда, купіць страхоўку «у запас» складана. Працягнуць дамову можна не раней, чым за месяц да сканчэння існуючай дамовы.

Могуць выбіраць, якімі грашыма будуць плаціць, і тыя беларусы, якія выязджаюць за мяжу. Гаворка вядзецца пра страхаванне здароўя турыстаў.

Але ўдакладнім, што ў рублях удасца аплаціць не кожны від страхоўкі. Напрыклад, «зялёную картку», якая дае дазвол на выезд аўто за мяжу, можна купіць толькі за валюту. Самая танная каштуе 30 еўра на 15 дзён.

### Размытнёўка

У працяг аўтамабільнай тэмы варта ўзгадаць і імпарт аўтамабіляў. Новыя мыты, якія ўступілі ў сілу 1 ліпеня 2011 года, рэзка ўзнялі кошт прывезеных машын і зрабілі пакупку аўто нявыгаднай. Але валютны крызіс патрохі ўзмацніў пазіцыі перагоншчыкаў. Справа ў тым, што мыта можа выплачвацца ў рублях. Таму, здаўшы даляры валютчыкам альбо праз сайт Пракапові.ч, можна «зменшыць» мыта амаль удвая.

Але размытняюць беларусы не толькі аўтамабілі. Грошы на мяжы трэба заплаціць і для таго, каб, напрыклад, правезці халадзільнік ці іншы тавар, цяжэйшы за 35 кг.

### Падаткі і замежныя пераводы

Беларусы, якія прывыклі дзяліцца з дзяржавай сваімі замежнымі заробкамі, плацяць 12% ад агульнай сумы. Калі ж падатак з заробкаў у злотых ці літах плаціць рублямі, можна, фактычна, абысціся абсалютна законным падаткам у 6%. Гэтаксама пытанне вырашаецца і з замежнымі пераводамі.

### Арэндная плата для юрыдычных асобаў

Хітрыкаў, якімі карыстаюцца юрыдычныя асобы, непараўнальна больш. Гэта не толькі аплата любых мытных плацяжоў ці афармленне вонкавай рэкламы. Перадусім эканомія дасягаецца за кошт арэнднай платы, якая вылічваецца ў еўра, але выплачваецца ў рублях.

**ЯМ**

# Арэнда кватэраў у верасні: што па чым?

Гаспадары бяруць і рублямі, **па курсе 7000–8000** рублёў.

Пачатак восені традыцыйна характарызуецца ростам попыту на здымнае жылле. У першую чаргу — з боку студэндаў, якім не дасталося месца ў інтэрнаце.

Як паведамілі ў адным з мінскіх агенцтваў нерухомасці, свабодных аднапакаёвых кватэраў зараз на рынку шмат. У сярэднім за такое жыллё просяць $150. Пры гэтым, калі аплата будзе ў валюце, то можна дамовіцца і на меншую суму. Большасць арэндадаўцаў пагаджаюцца браць аплату ў рублях. У такім выпадку кошт аднапакаёўкі без мэблі складзе 1 мільён рублёў. За кватэру з мэбляй давядзецца выкласці на 200 тысяч больш.

Столькі ж, каля 1,2 мільёна рублёў, каштуюць кватэры па Аўтазаводскай лініі метро. Маскоўская лінія ацэньваецца даражэй: 1,5 мільёна.

Самыя танныя 2-пакаёўкі каштуюць $230. Сярэдняя ж цана — $250. Курс пераліку пры аплаце ў беларускіх рублях складае ад 7 да 8 тысяч.

Трохпакаёвыя кватэры здаюцца па 300 долараў, курс прыкладна такі самы.

За свае паслугі агенцтвы бяруць на сённяшні дзень ад 220 да 350 тыс. рублёў. У некаторых фірмах (якія працуюць «па факце») аплата складае 50% ад месячнага кошту здадзенай кватэры. Пры гэтым спецыялісты большасці агенцтваў перакананыя, што кошты арэнды будуць спадаць. Таму, калі вы хочаце ашчадзіць, варта перачакаць пару тыдняў.

**Аксана Рудовіч**

# Украіна ліквідуе «Нафтагаз»

Знойдзена прыгожае рашэнне, каб перагледзець ранейшыя газавыя дамовы.

Украіна можа ліквідаваць «Нафтагаз» і стварыць самастойныя прадпрыемствы па здабычы і транспарціроўцы газу. Пра гэта заявіў прэм'ер-міністр Украіны Мікалай Азараў. Па яго словах, гэта прывядзе да перагляду газавых дамоваў з Расіяй. Раней Азараў прапаноўваў расійскаму боку перагледзець кантракты, падпісаныя ў 2009 годзе прэм'ерамі Украіны і Расіі Юліяй Цімашэнка і Уладзімірам Пуціным. Ён адхіліў таксама прапанову Масквы пастаўляць Украіне газ па ніжэйшай цане ў абмен на далучэнне Украіны да Мытнага саюза. Бо гэта прымусіць яго краіну перагледзець падпісаныя раней пагадненні з Сусветнай гандлёвай арганізацыяй.

«Украіна паводзіць сябе, як Ленін, які ў 1917-м ліквідаваў часовы ўрад і адмовіўся плаціць царскія пазыкі», — абураюцца расійскія эксперты.

Рашэнне, прапанаванае нашымі паўднёвымі суседзямі, створыць цікавы юрыдычны прэцэдэнт. Яго зможа скарыстаць Беларусь, каб пазбегнуць адказнасці за шматлікія абавязацельствы лукашэнкаўцаў.

**Сямён Печанко**

## Сцісла

### Праезд у мінскім транспарце падаражэе да 950 рублёў

Рашэнне ўступіць у сілу 8 ці 12 верасня. Пры куплі ў вадзіцеля талон будзе каштаваць 1 000 рублёў, а паездка ў аўтобусах-экспрэсах — 1350 рублёў.

### Абяцанкі-цацанкі

Перавод рублёвых дэпазітаў у валютныя дазволяць, але па рынкавым курсе.
«Мы забяспечым свабодны перавод рублёвых дэпазітаў у валютныя пры выхадзе на адзіны курс», — адзначыў першы намеснік старшыні Нацбанка Мікалай Лузгін. Па ацэнках старшыні Нацбанка Надзеі Ермаковай, курс можа скласці 10 тысяч рублёў.

### Банкі забароняць здымаць валюту ў замежных банкаматах

«Белінвестбанк» папярэджвае, што ад 5 верасня зняць за мяжой грошы з рублёвых картак будзе немагчыма. Ліміт на безнаяўныя разлікі пакуль застаецца ранейшым — каля $45 у эквіваленце на суткі ў суседніх краінах.

### «Белаграпрамбанк» закрыў кожны трэці абменнік

На сайце ўстановы насупраць 26 абменных пунктаў стаіць надпіс: «Часова не працуе». Дзейнасць абменнікаў аказваецца нерэнтабельнай. На іх утрыманне патрабуецца ад 3 да 5 мільёнаў рублёў у месяц.

### Аплату за інтэрнаты падвышаюць у разы

Студэнцкае жыллё падзеляць на катэгорыі. Самае дарагое будзе каштаваць 105 тысяч рублёў за месяц. Таннае — 35 тысяч. Сабраныя сродкі ВНУ пералічыць тым студэнтам, якія здымаюць жыллё праз недахоп месцаў у інтэрнатах. Цяпер такая кампенсацыя складае $1.1 у месяц.

### Адпускныя цэны на хлеб і малако вырастуць на 5%

Гэта прадугледжана пастановай Міністэрства эканомікі ад 1 верасня. Раней цэны на хлебную і малочную прадукцыю павышаліся на 5% у пачатку жніўня.

**ЯМ**

# Коля і дзеці

Малодшы сын Лукашэнкі пайшоў вучыцца **ў элітную школу** ў Астрашыцкім Гарадку.

1 верасня ўвага грамадства і СМІ была прыкавана толькі да аднаго першакласніка. Нарэшце пачаў вучыцца Коля Лукашэнка. Меркавалася, што ён пойдзе ў школу летась, як толькі яму споўнілася шэсць гадоў, але бацька вырашыў перачакаць яшчэ год.

### Колевы школы

Галоўная загадка заключалася ў тым, у якую школу адправяць Колю. Версій было багата. У ліку фаварытаў называлася элітная гімназія №16 у мінскім раёне Вяснянка. Рэч у тым, што там вучыцца ўнучка кіраўніка дзяржавы Віка Лукашэнка, пляменніца Колі. Іншыя варыянты — школа ў Бараўлянах, спецыяльны кадэцкі клас, створаны ў Лошыцы, і прыватная школа ў Драздах, якую праз год меўся пабудаваць «Трайпл».

У выніку Коля Лукашэнка пайшоў у першы клас Астрашыцка-Гарадоцкай сярэдняй школы. Яе перавагі навідавоку.

Па-першае, яна спрыяе моцнаму прапагандысцкаму эфекту. Яшчэ б — сын кіраўніка дзяржавы ідзе нароўні з іншымі вяскоўцамі ў нібыта звычайную сельскую школу.

Па-другое, школа якраз-такі далёка не звычайная. Яна знаходзіцца за межамі Мінска, непадалёку ад выязной рэзідэнцыі Лукашэнкі. Яшчэ год таму ўезд у мястэчка патрулявалі ДАІшнікі, цяпер жа колькасць бачнай і нябачнай аховы вырасла ў некалькі разоў.

Ёсць і трэці плюс. У Астрашыцкім Гарадку знаходзіцца эксперыментальная «школа будучыні», на рэканструкцыю якой бюджэтных сродкаў не шкадаваў ніхто.

Колькі ў Беларусі школ з шыкоўнымі спартыўнымі комплексамі і двума басейнамі? Па «выпадковым» супадзенні, такія школы будуюцца на малых радзімах высокіх беларускіх чыноўнікаў і бізнэсоўцаў. Напрыклад, уладальніка «Трайпла» Юрыя Чыжа ці былога старшыні Нацбанка Пятра Пракаповіча.

### Астрашыцкая мадэрнізацыя

Школа ў Астрашыцкім Гарадку заснаваная ў 1863, год паўстання Кастуся Каліноўскага, але, як трапна заўважыў Аляксандр Лукашэнка, «хіба можна паверыць, што гэтай старажытнай, «сівой» школе — 150 гадоў?»




Тут тры гады запар праводзіўся капітальны рамонт з мадэрнізацыяй, які, паводле апошніх падлікаў, заважыў агулам на 14 мільярдаў дадэвальвацыйных рублёў. Сёлета ў школе з’явіцца плавальны басейн з дзвюма чашамі — 12 метраў і 25 метраў. У трох першых класах будуць вучыцца 43 чалавекі, а ўсяго школу будуць наведваць 407 вучняў.

«У школе праводзяцца факультатыўныя заняткі, скіраваныя на вывучэнне прадметаў на павышаным узроўні, а таксама музычнай, мастацкай, тэатральнай, харэаграфічнай, спартыўнай скіраванасці», — інфармуе дзяржаўнае агенцтва БелТА. Кампанія для Колі падбярэцца спартыўная — у Астрашыцкім Гарадку будуць вучыцца хакейныя каманды 1994–1998 гадоў нараджэння поўным складам.

**Віталь Несцераў**

**Колькі ў Беларусі «звычайных школ» з двума басейнамі? »**

# «Нам актыўна дапамагаюць бацькі»

Дырэктарка школы Кацярына Махахей расказвае пра сваю навучальную ўстанову.

### «Моцныя бакі — матэматыка і замежныя мовы»

Калі летась мы праехалі ў Астрашыцкі Гарадок, Кацярына Махахей з гатоўнасцю адклала свае справы, каб расказаць пра ўмовы навучання ў школе. Падчас размовы яна падкрэсліла, што яе сын ужо вучыцца ў гэтай школе. Жанчыну цалкам задавальняе ўзровень адукацыі і пераводзіць яго у іншую яна і не думае. Малодшая дачка дырэктаркі пайшла ў Астрашыцка-Гарадоцкую школу разам з Колем.

Паводле яе словаў, дзяцей сюды вязуць адусюль: і з Мінска, і з Лагойска. Развіваюцца і суседнія вёскі — людзі купляюць участкі і адразу ж вядуць дзяцей у элітную школу. Хоць, падкрэслівала Кацярына Махахей, школа звычайная сярэднеадукацыйная. Моцныя бакі — матэматыка і замежная мова.

### Конкурс на паступленне ў першы клас

Дырэктарку радуе вялікая цікавасць да школы, параўнальная нават з ажыятажам. Наконт набору вучняў яна расказала, што астрашыцкіх дзяцей яны павінны браць усіх, але астатніх — на ўласны выбар. Таму дзяцей абы-якіх бацькоў, што, напрыклад, стаяць на ўліку ў міліцыі, у школу хутчэй за ўсё не возьмуць. «Нас падтрымлівае дзяржава, нам актыўна дапамагаюць бацькі», — расказвала Кацярына Махахей.

**Лукашэнкі не прадаюцца**

Дзяржаўнае агенцтва БелТА адмовілася прадаць «Нашай Ніве» здымак з 1 верасня, дзе Аляксандр Лукашэнка прысутнічае на ўроку ў сына Колі. Прычыну адмовы не патлумачылі. Вядома, што рашэнне прымаў асабіста генеральны дырэктар Дзмітрый Жук.

Элітных класаў няма: «Ёсць у нас дзеці і вельмі забяспечаных людзей, але разам з імі вучацца і звычайныя дзеці, чые бацькі ўсё жыццё пражылі ў Астрашыцкім Гарадку. І нікуды ад гэтага не дзенешся...» Летась у школу набіралі 48 першакласнікаў, якіх падзялілі на тры класы.

### Коннае падарожжа па рэзідэнцыі Лукашэнкі

Кацярына Махахей пастаянна падкрэслівала, што ў школу ўкладзена вельмі шмат сродкаў і што ім вельмі пашанцавала, бо для сельскай школы гэта нетыпова. Вучаць дзяцей падрыхтаваныя спецыялісты — палова настаўнікаў з вышэйшай катэгорыяй. Каля 75% працэнтаў сёлетніх выпускнікоў паступілі ва ўніверсітэты. Для параўнання — прыкладна такія ж паказчыкі ў абласных ліцэях краіны.

Дырэктарка адразу адзначыла, што школа расейскамоўная і ўсё выкладанне ідзе па-расейску. «Не хвалюйцеся, беларуская мова будзе для дзіцяці як другая замежная, — «супакойвала» яна. — Чаму б яе не вывучыць? Можа, калі-небудзь спатрэбіцца».

Навучэнцы могуць катацца ў Раўбічах, прычым плаціць яны толькі за аўтобус. Сам жа адпачынак бясплатны. А вось конным спортам і хакеем школьнікі змогуць займацца на тэрыторыі рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы. Карацей, у гасцях у Колі.

**ВН**



Так выглядае звычайная вясковая школа ў Асташыцкім Гарадку.

**Эксклюзіў**

## Срэбраны Лукашэнка за тысячу даляраў



Ва ўкраінскіх ювелірных крамах прапануюць эксклюзіў.

«Бюст прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Лукашэнкі А.Р. са срэбра з пазалотай! Калі Вы патрыёт Рэспублікі Беларусь, Вас цікавіць палітыка і Вы прыхільнік прэзідэнта — гэта статуэтка для Вас! Выдатны падарунак сябру-палітыку», — пішуць на сайце крамы.

Партрэтнае падабенства бюста выклікае сумнеў, бо статуэтка нагадвае Якуба Коласа не ў меншай ступені, чым Лукашэнку.

Бюст са срэбра 925 пробы каштуе 1052 даляры, ці, калі купцам будзе прасцей, 8384,44 грыўны. Важыць срэбраны Лукашэнка 290 грамаў, выплаўляецца цягам 2–4 тыдняў, дастаўка займае 2–3 дні.

Вытворчасцю бюстаў займаецца ювелірная майстэрня «Кавалік» у Кіраваградзе.

**Алесь Сабаленка**

# Кавалак паперы цаною ў свабоду

Гарадзенец **Алесь Кіркевіч** пасля другой прапановы ўсё-ткі напісаў прашэнне аб памілаванні. Ён лічыць, што на свабодзе ад яго будзе больш карысці, чым за кратамі.

**«Наша Ніва»: Алесь, што Вы напісалі ў прашэнні аб памілаванні?**

**Алесь Кіркевіч:** Мне далі гатовы тэкст. У ім — прызнаю віну і просьба аб памілаванні кіраўніку дзяржавы. Калі б нават была свабодная форма... для мяне гэта толькі кавалак паперы, які дастаўся цаною у свабоду.

**«НН»: Не шкадуеце, што першы раз адмовіліся пісаць прашэнне і не выйшлі 11 жніўня?**

**АК:** Не шкадую. Мне пасля першага прашэння прапаноўвалі нават з'ехаць за мяжу ... Прынцыповай розніцы ў тым, каб выйсці цяпер альбо на паўмесяца раней, няма.

**«НН»: А хто прапаноўваў з'ехаць за мяжу?**

**АК:** КДБ. Гэта ад іх была прапанова напісаць прашэнне аб палітычным прытулку ў адну з краін Еўрасаюза. Але пасля прапанову адклікалі. Гэта было дзесьці пасля 11 жніўня.

**«НН»: Як да Вас ставіліся сукамернікі ў калоніі?**

**АК:** Пазітыўна. Знаходзіліся людзі, гатовыя заўжды дапамагчы мне. Большасць вязняў настроена апазіцыйна да ўладаў. Шмат людзей там выпісвае незалежную прэсу. «Ружовыя акуляры» ад БТ на іх ніхто не насуне ўжо.

**«НН»: Вы пастаянна з-за кратаў дасылалі ў Рэдакцыю вершы. Як удавалася ў такім непаэтычным месцы думаць пра літаратуру?**

**АК:** Ёсць выраз: калі табе нехта скажа, што ён філасаф, спытай яго, дзе ён сядзеў; калі нехта скажа, што ён — паэт, спытай, дзе ён ваяваў.



Кіркевіча арыштавалі на шосты дзень пасля вяселля. Цяпер ён нарэшце сустрэўся з жонкай Надзеяй.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Паэзія прыходзіць у нейкім памежным стане, які бывае за кратамі. У няволі шмат момантаў, калі перажываеш... Момантаў, каб прыйшла муза, у калоніі шмат. Я б сказаў, што гэта надта паэтычнае месца.

**«НН»: Уначы пасля вызвалення Вы прыехалі ў Мінск, дзе наведалі плошчу Незалежнасці. Якія пачуцці захлынулі?**

**Калонія — паэтычнае месца.**

**АК:** Цяжка сказаць. Адчуванне пустэчы з аднаго боку, а з другога — успаміны пра горад, якога даўно не бачыў, настальгія... Балюча таксама было, успаміны ўдарылі ў душу.

**«НН»: Пасля вяселля ў Вас не было мядовага месяца. Не думалі яшчэ пра нейкае шлюбнае падарожжа?**

**АК:** Шлюбнае пажарожжа ў нейкай ступені будзе. Я маю доўг перад жонкай і маці. І хачу цяпер ім прысвяціць пэўны час.

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

**Апошнія дні**

Схадзіў у лазню, напісаў лісты,
Чакаю, што пашле мне Неба —
Кавалак цэглы ці краюху хлеба:
Паліць масты ці не паліць масты?

Не веру прэзідэнту, веру Богу.
Не бачаць вочы, убачыла душа:
Пад небам сінім сцелецца шаша,
…А мо ў сталоўку шэрая дарога.

Я лягу спаць, няма мяне, знікаю.
Свядомасць раніца туманам
прынясе,
Змачыўшы ногі недзе ў расе —
Дзе сцелецца шаша да небакраю.

**Алесь Кіркевіч**

наменсік старшыні «Маладога фронта», гарадзенец. Вучыўся на гістфаку Гродзенскага ўніверсітэта. Асуджаны да 4 гадоў зняволення за ўдзел у акцыі 19 снежня. Пакаранне адбываў у наваполацкай калоніі. Там жа, дзе Андрэй Саннікаў і Мікіта Ліхавід. У калоніі Алесь рабіў будаўнічыя паддоны, а таксама пісаў вершы. Вызвалены ўказам Лукашэнкі ад 1 верасня.

# Сеткавы актывіст: Катаваннямі мяне прымусілі супрацоўнічаць з КДБ

Адміністратар суполкі «Мы за Вялікую Беларусь» vkontakte.ru **Сяргей Паўлюкевіч** кажа, што пагадзіўся стаць агентам КДБ пад ціскам. Цяпер ён выехаў з краіны.

21-гадовы хлопец выклаў у інтэрнэце відэазварот, у якім заявіў пра катаванне ў жодзінскай турме.

Паўлюкевіч заявіў, што 1 ліпеня яго арыштавалі па «ліпавым» пратаколе на 15 сутак. Тады ж у маладога чалавека забралі мабільны тэлефон і пашпарт, якія не вярнулі да сёння.

«Завялі ў кабінет, у якім былі два чалавекі ў масках і гумовых пальчатках (як потым сказалі, з ваеннай разведкі). Адразу ж паставілі мяне да сцяны, рукі за спіну, надзелі кайданкі, заціснуўшы іх, наколькі гэта было магчыма, надзелі на галаву цэлафанавы пакет і пачалі душыць.

Потым паклалі мяне жыватом на падлогу. Адзін з іх сеў ззаду на мяне, перакрыў дыханне пакетам і, узяўшы за падбародак двума рукамі, пачаў мяне расцягваць, наколькі гэта было магчыма. Адначасова другі хадзіў і цснуў сваёй нагой на мае ногі, косткі, плечы.

Білі па спіне, у жывот, па галаве — усё рабілася так, каб не заставалася слядоў. Узяўшы двума пальцамі за мой кадык, адзін з іх заціснуў яго і як бы стаў цягнуць, пасля гэтага мне было балюча глытаць нават сліну. І, вядома, паставілі на расцяжку, амаль на шпагаце. Так з кайданкамі на руках, пакетам на галаве я прастаяў каля 2-3 гадзін. У такім стане мяне дапытвалі».

Паўлюкевіч паведаміў, што патрабавалі доступу да яго акаўнта «Вконтакте», каб кантараляваць групу «Мы за Вялікую Беларусь» і сустрэчу «Марш мільёнаў». А таксама яго прымусілі падпісаць пагадненне аб супрацоўніцтве. Сяргей заявіў, што на камеру агучыў тэкст, у якім дыскрэдытуе сябе і іншых людзей. Ён адзначыў, што пагадзіўся на ўсе ўмовы, каб толькі выйсці на свабоду. Цяпер малады чалавек заявіў, што адмаўляецца супрацоўнічаць з КДБ. Цяпер Сяргей Паўлюкевіч знаходзіцца за мяжой, але не раскрывае, у якой краіне. Ён пагадзіўся адказаць на пытанні «НН».

**«Наша Ніва»: Чаму толькі праз паўтара месяца Вы вырашылі расказаць пра катаванні?**

**СП:** Па-першае, быў у шоку. А па-другое, быў у небяспечным месцы.

З нагоды прызнанняў Сяргея Паўлюкевіча пра падрабязнасці сваёй вярбоўкі распавёў экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта Алесь Міхалевіч. «Мне было сказана, што я магу быць вызвалены толькі выключна ў выпадку, калі я стану тайным агентам. У тэксце я напісаў: выказваю добраахвотнае жаданне садзейнічаць органам контрразведкі КДБ, прымаючы аператыўны псеўданім «Гаўрыла», — расказвае Міхалевіч.

**«НН»: Вы паведамілі, што Вас на відэа прымусілі агучыць тэкст, які дыскрэдытуе Вас самога і іншых людзей. Што было ў гэтым тэксце?**

**СП:** Я думаю, што ў бліжэйшай «разаблачальнай» праграме па БТ ці АНТ гэты тэкст з'явіцца, і тады самі ўсё ўбачыце. Там нешта ў жанры БТшных блокбастараў.

**«НН»: Можа, назавяце прозвішчы, супраць каго тое відэа?**

**СП:** Супраць мяне і яшчэ аднаго чалавека. Ён ужо ведае пра гэта.

**СМ**

## Яшчэ адно вяселле за кратамі

Анархіст Дзядок прашэнні да Лукашэнкі **не падпісвае**. Бо вінаватым сябе не лічыць.

За кратамі Мікалай Дзядок вырашыў засвоіць рабочую спецыяльнасць. Адміністрацыя калоніі пагадзілася задаволіць просьбу маладога чалавека на адукацыю ў тым выпадку, калі той зможа сумяшчаць вучобу з працай. «Хаця ў папярэднім лісце Мікола паведаміў, што вучоба будзе праходзіць з 9.30 да 17.00. Як можна сумяшчаць вучобу да пятай вечара і працу, застаецца загадкай», — абураная нявеста маладога чалавека Валерыя **(на фота)**.

Дзяўчына звязвае такі адказ адміністрацыі з адмовай Мікалая пісаць прашэнне і з той кампаніяй у яго абарону, якую паднялі студэнты ЕГУ. На 14 верасня запланавана вяселле Мікалая Дзядка. «Ужо ўсё зроблена — засталося толькі дажыць і даехаць», — так пракаментавала навіну нявеста асуджанага анархіста Валерыя.

Мікалай Дзядок быў асуджаны на чатыры гады і шэсць месяцаў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Ён абвінавачваўся ў арганізацыі антымілітарысцкага шэсця пад Генеральным штабам, нападзе на шраг будынкаў з групай анархістаў. Прызнаны вязнем сумлення.

**СМ**

**Напісаць Дзядку** можна на адрас: 213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна, папраўчая калонія № 15.



## Шурхай злавіў фальсіфікатараў за руку

2 верасня ў судзе Маскоўскага раёна Брэста прайшоў перагляд справы каардынатара БХД Змітра Шурхая. Яго затрымалі 28 чэрвеня і абвінавацілі ў брыдкаслоўі ў грамадскім месцы. Мужчына быў асуджаны тады да 7 сутак адміністрацыйнага арышту.

Цяпер суддзя спыніў справу за адсутнасцю складу правапарушэння. Ён разглядзеў фальсіфікацыю ў дакументах супрацоўніка ДАІ. Даішнік 28 чэрвеня аштрафаваў Змітра за парушэнне правілаў дарожнага руху. У квітанцыі на аплату штрафу ўказаў час — 12.05, хаця ўсё адбылося ў 12.40. Разам з супрацоўнікам ДАІ знаходзіўся і супрацоўнік КДБ Новікаў, якія пасля выплаты штрафу затрымаў актывіста БХД за брыдкаслоўе. Калі ж выявілася «памылка», нехта ў пратаколе папravіў час на 13.05. Суддзя гэта выявіў падчас перагляду справы.

Зміцер Шурхай мае намер абскарджваць сваё 7-сутачнае зняволенне і, магчыма, паспрабуе прыцягнуць да адказнасці супрацоўніка, які здзейсніў фальсіфікацыю. Хаця Зміцер і адзначае, што гэта малаверагодна: справа спынена за адсутнасцю складу правапарушэння, а не з-за фальсіфікацый.

**КМ**

# Прафесія — жонка футбаліста

Спадарожніцы жыцця гульцоў БАТЭ адкрылі душу карэспандэнтцы «НН».

Не сакрэт, што многія дзяўчаты мараць выйсці замуж за вядомага футбаліста. Пры гэтым не ўсе ўсведамляюць, што быць жонкай футбаліста — гэта своеасаблівая прафесія, якая мае свае плюсы і мінусы.

### Канцавая: Выходзіла замуж не за футбаліста

Наталля Канцавая пазнаёмілася з мужам, нападаючым барысаўскага БАТЭ Арцёмам, 12 гадоў таму. А гэтай зімой пара адзначыць фаянсавае вяселле — дзевяціголддзе сумеснага жыцця. Гадуюць двух сыноў. Старэйшы — Саша — у верасні пайшоў у першы клас, малодшаму Мікіту ўсяго 2 гады.

Наталля, якая раней зусім не цікавілася футболам, цяпер не прапускае амаль ніводнага матча.

«Без мяне ніводзін футбол не праходзіць! Абавязкова наведваю ўсе хатнія матчы, часам — некаторыя з выязных».

Як сапраўдны заўзятар яна калекцыянуе выразкі з газет, дзе ўзгадваецца пра Арцёма. За некалькі год удалося назбіраць унушальных памераў альбом.

Аднак на залішнюю ўвагу з боку прэсы альбо футбольных заўзятараў Наталля не скардзіцца. «Усяго ў меру», — кажа яна.

«Быць жонкай футбаліста — мой лад жыцця, я ўжо звыклася з гэтым. Найбольш цяжкае для мяне — зімовыя зборы, калі мы не бачымся з мужам па два-тры тыдні», — расказвае Наталля.

Хатняй гаспадаркай у асноўным займаецца жонка. Але і Арцём не супраць дапамагчы. «Калі трэба вынесці смецце — ён выносіць, не чакаючы, пакуль я гэта зраблю. У ежы мой муж неперабарлівы: есць ўсё, што згатую, і кажа, што смачна», — смяецца дзяўчына.

Гэтым летам сям'я Канцавых адпачывала на дачы. За мяжу выязджаюць звычайна зімой, калі ў Арцёма бывае адпачынак. Мінулы раз наведалі Аб'яднаныя Арабскія Эміраты і засталіся ў захапленні ад вандроўкі.

Што тычыцца Мінска, то, маючы двух дзяцей, нячаста ўдаецца некуды выйсці. Даглядаць дзяцей дапамагае маці Наталлі.

«Затое мы часта выходзім на прагулкі, любім гуляць па вуліцы, нават проста ля дома, каля возера».

Вось толькі парады, як заваяваць сэрца футбаліста, ад Наталлі мы не пачулі. «Не магу нічога параіць, бо я ўвагу футбаліста не прыцягвала. Я выходзіла замуж за каханага мужчыну, а ўжо потым — за футбаліста».



Наталля: «У ежы мой муж неперабарлівы: есць ўсё, што згатую, і кажа, што смачна». Здымак з хатняга архіва Канцавых.



Нядаўна Віталь Радзівонаў атрымаў траўму. Цяпер ён больш часу праводзіць з сям'ёй. Здымак Сяргея Гудзіліна.

### Радзівонава: Запрасіла Віталя на танец

Сям'ю Радзівонавых мы спаткалі ў парку, дзе яны звычайна гуляюць з двухгадовай дачкой Машай.

Нягледзячы на пратэсты з боку гарэзы-малой, усё-ткі ўдалося задаць некалькі пытанняў Валянціне.

13 верасня спаўняецца сем гадоў з дня іх знаёмства, калі тады яшчэ студэнтка псіхалагічнага факультэта БДПУ Валянціна запрасіла Віталя на танец — Every time Брытні Спірс. Пра тое, што ён футбаліст, дзяўчына даведалася пазней.

«Быць жонкай футбаліста — не цяжка. Канечне, калі муж на зборах, то, бывае, не бачымся цэлы месяц. Але да гэтага таксама прывыкаеш. Стэлефаноўваемся, размаўляем праз скайп», — кажа яна.

Як вядома, Віталь атрымаў сур'ёзную траўму падчас апошняга матча. На жаль, не зможа ўзяць удзел у гульнях Лігі чэмпіёнаў.

Зараз асноўнае «захапленне» Валянціны, якое займае ўвесь час, — гэта дачка. Аднак на выхадных Радзівонавы стараюцца кудысьці выбрацца ўдваіх, пакінуўшы дачку бабулям і дзядулям. Гэтым летам утраіх адпачывалі ў Юрмале.

Валянціна распавяла, як адзначалі выхад БАТЭ ў Лігу чэмпіёнаў.

«Добра адзначылі (смяецца). Гэта было агульнакаманднае свята. Мы хадзілі ў караоке, спявалі песні, весяліліся. (Пытаецца ў мужа, ці можна пра гэта расказаць.) Віталь вельмі добра спявае, і не адну песню. Я нават здзівілася яго смеласці, сама б так не змагла», — расказвае Валянціна.

Згодна гараскопу, стралец-мужчына і вадаліў-жанчына лічацца гарманічнай парай. Менавіта такое ўражанне пакінула пасля сябе гэта маладая сям'я.

### Ліхтаровіч: Знаёмыя з Дзімам з дванаццаці гадоў

Вольга Ліхтаровіч, жонка капітана БАТЭ, адразу пры сустрэчы паказала дзіўную металічную прыладу з пружынай.

«Сродак самаабароны ад сабак! Сын прэзентаваў пасля маіх аповедаў. Калі шчыра, наўрад ці адпужае жывёліну, хіба што яшчэ больш раззлуе», — смяецца Вольга.

Сыну ў верасні спаўняецца 15 гадоў. Ёсць яшчэ дачка, ёй 13. Зараз актуальнае пытанне, куды будзе паступаць сын. Хутчэй за ўсё — тэхнічная ВНУ.

«У нас сям'я дэмакратычная. Кожны сам выбірае, згодна са сваімі інтарэсамі».

Вольга і Дзмітрый знаёмыя з 12-гадовага ўзросту. Жылі ў адным доме ў Магілёве, былі разам у дваровай кампаніі. Потым — вяселле, нараджэнне дзяцей.

Можна сцвярджаць, узыходжанне Дзмітрыя на спартыўны алімп адбывалася ў яе на вачах.

Цяпер Вольга працуе спецыялістам па падборы персаналу ў адной мінскай фірме. Мае дзве вышэйшыя адукацыі.

«Я не працавала, пакуль дзеці не пайшлі ў школу. Увогуле, ведаю шмат жонак футбалістаў, якія працуюць. Напрыклад, Святлана Юрэвіч, у Магілёве — Калачова, Лукашова».

Пару месяцаў таму Ліхтаровічы набылі невялікі дачны ўчастак, пра які Вольга марыла даўно. Як жартуе Дзмітрый, «цыбе, матухна, да зямелькі пацягнула».

«Да бульбы, дзякуй Богу, пакуль справа не дайшла. Займаюся вырошчваннем кветак», — расказвае Вольга.

У вольны час Вольга чытае Гавальду. «Каб разгрузіць мазгі», — кажа яна.

Паходамі ў магазін звычайна займаецца муж.

«Дзмітрый у нас «забеспячэнец», як я яго называю. Ён прынёс — я прыгатавала, пытанняў няма. Калі сама іду ў краму, часам не ведаю, што купіць. Ды і цэны зараз пужаюць, гэта проста «жэсць»! У магазін стала страшна хадзіць».

А вось усё, што тычыцца рамонту, добраўпарадкавання — гэта прэрагатыва жонкі. Да працы па дому стараюцца максімальна прыцягваць дзяцей.

«Аліначка займаецца ўборкай, Андрэйка выносіць смецце, калі яму нагадаеш пра гэта», — жартуе Ліхтаровіч.

Летам дзецям прапанавалі альбо тыдзень адпачынку ў Турцыі ўтраіх з маці, альбо два тыдні ў лагеры ў Балгарыі ўдваіх. Запытаўшыся ў маці, ці не пакрыўдзіцца яна, дзеці выбралі апошняе. А Вольга спакойна адпачыла дома.

На пытанне, ці цяжка быць жонкай футбаліста, адказвае: «Футбаліст — гэта прафесія. А я жыву, у першую чаргу, з прыстойным, клапатлівым і любімым чалавекам. Мне прыемна, калі на вуліцы ці ў чарзе ў краме, асабліва перад важнымі матчамі, людзі зычаць удачы, кажуць, што будуць хварэць за яго. Часам гатова праслязіцца ад іх словаў...»

**Паласу падрыхтавала Аксана Рудовіч**



Вольга Ліхтаровіч: Ад добрых словаў магу праслязіцца. Здымак Сяргея Гудзіліна.

# Рэнан Брэсан: **Бацькі сказалі, што будуць любіць мяне і з беларускім пашпартам**

**Любімец барысаўскай публікі** Рэнан Брэсан жыве ў Мінску. Сюды яго штодня прывозіць клубны аўтобус з трэніровак у Барысаве. Нядаўна футбаліст рашэнне вырашыў беларускае грамадзянства.



**Рэнан Брэсан**

нарадзіўся ў 1988 у Тубаране (Бразілія). Выступаў за мясцовы «Атлетыка». Ад 2007 у Беларусі. Спачатку гуляў за «Гомель», а ў 2010 перайшоў у БАТЭ. Найлепшы футбаліст і бамбардзір чэмпіянату-2010. Год таму Брэсан атрымаў беларускае грамадзянства. Жанаты, каталік.

**Расклад гульняў БАТЭ ў Лізе чэмпіёнаў:**

**1 тур.** 13 верасня: «Вікторыя» (Пльзень) — БАТЭ.
**2 тур.** 28 верасня: БАТЭ — «Барселона».
**3 тур.** 19 кастрычніка: «Мілан» — БАТЭ.
**4 тур.** 1 лістапада: БАТЭ — «Мілан».
**5 тур.** 23 лістапада: БАТЭ — «Вікторыя».
**6 тур.** 6 снежня: «Барселона» — БАТЭ.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### У Беларусі было страшна

**«Наша Ніва»: Рэнан, як ты апынуўся ў Беларусі?**

**Рэнан Брэсан**: Выступаў у Бразіліі за клуб з роднага горада. Да нас прыехаў селекцыянер з Украіны. Я адразу спадабаўся яму. На прагляд я паехаў у львоўскія «Карпаты». Але там узніклі праблемы. Урэшце на мяне выйшаў «Гомель».

**«НН»: Шок быў ад траплення ў невядомую краіну?**

**РБ**: Канечне, быў. Помню адразу па прылёце было тры гадзіны дня, тым не менш, вакол цёмна. Для мяне гэта было вельмі страшна, бо няма такога ў Бразіліі. Але я ведаў, чаго хацеў, таму трымаўся, цярпеў.

**«НН»: Ведаў што-небудзь пра Беларусь перад адлётам?**

**РБ**: Калі шчыра, то нічога. Ведаў толькі пра Аляксандра Глеба, які тады гуляў у «Арсенале».

### Сум па пляжы

**«НН»: Адкуль ты родам?**

**РБ**: Горад Тубаран, штат Санта-Катарына. Горад маленькі, менш за 100 тысяч жыхароў. Як Барысаў. Ад мяне 20 хвілін да пляжа. Акіян, шмат турыстаў.

**«НН»: Па пляжах не сумуеш?**

**РБ**: Сумую. Падчас адпачынку на пляжах амаль увесь час. У Беларусі купацца не спрабаваў. Летам мне вельмі падабаецца беларускае надвор'е. Страваў некаторых хоць і не хапае, але ёсць жонка, якая можа гатаваць.

**«НН»: Бацькі не прыязджалі ў Беларусь?**

**РБ**: Не. Былі планы прыехаць на Лігу чэмпіёнаў, але ў таты шмат працы. Ён валодае невялікай фірмай па зборы мэблі. Мама хатняя гаспадыня, але ехаць адна не хоча.

### У Бразіліі тэхніка, у Беларусі — тактыка

**«НН»: У Гомелі табе падабалася?**

**РБ**: Я заўсёды з павагай ставіўся да тамтэйшага трэнера Анатоля Юрэвіча. Гэты трэнер давяраў маладым хлопцам. Юрэвіч вучыў мяне футболу, як Драгуна, яшчэ раней Рамашчанку. Ён паказаў мне, як трэба гуляць у Беларусі.

**«НН»: Шмат адрозненняў між футболам бразільскім і еўрапейскім?**

**РБ**: У Бразіліі футбол больш тэхнічны, індывідуальны. Вялікая колькасць футбалістаў, што могуць вырашаць лёс сустрэчы на апошніх хвілінах. Тут такія таксама ёсць, але ў Беларусі больш тактыкі. Часта перамогі атрымліваюцца толькі за кошт трэнерскіх установак.

**«НН»: Пераход у БАТЭ быў важнай часткай кар'еры?**

**РБ**: Гэта найлепшая каманда краіны, якая пастаянна гуляе ў еўракубках. У БАТЭ ўсё бліскуча. Летась столькі ўсяго выйграў і індывідуальна, і камандна. А Ліга чэмпіёнаў — гэта мая мара. Мая мара гуляць за «Барсу», але гуляць супраць яе таксама добра [смяецца].

### У зборную Бразіліі не прабіцца

**«НН»: А чаму вырашыў атрымаць беларускі пашпарт?**

**РБ**: Калі ўпершыню прапанавалі, то спалохаўся. Потым палічыў, што ў зборную Бразіліі цяжка прабіцца, там гуляюць вялікія футбалісты. Бацькі сказалі, калі для цябе будзе добра, то чаму не. Сказалі, што ўсё адно будуць мяне любіць [смяецца]. Быць гульцом зборнай — гэта вельмі прэстыжна.

**«НН»: Многія хвалююцца, што ты з'едзеш з краіны і не будзеш прыязджаць у зборную.**

**РБ**: Наадварот. Калі падпішу кантракт з добрым клубам, то ўсім будзе лепш, у тым ліку зборнай. Я магу абяцаць, што заўсёды буду з радасцю адгукацца на выклікі са зборнай.

### У БАТЭ ўсе на сваіх месцах

**«НН»: У чым феномен БАТЭ?**

**РБ**: Ёсць Анатоль Анатолевіч Капскі. Усе яго ведаюць, ягоны характар. Таксама ёсць Віктар Ганчарэнка. Яны абодва малайцы. У Капскага заўсёды была мара рабіць вялікі клуб. Усе працуюць на сваіх месцах. Ніхто не замінае іншаму. Калі так працягваць, то БАТЭ можа даходзіць і да чвэрцьфіналаў Лігі чэмпіёнаў.

### З адсутнасцю валюты не сутыкаўся

**«НН»: Сайты часцей чытаеш беларускія ці бразільскія?**

**РБ**: Беларускія. У Бразіліі я гляджу толькі сайт свайго горада і футбол. Маё жыццё цяпер тут, таму і чытаю мясцовыя.

**«НН»: Палітыкай цікавішся?**

**РБ**: Не. Не разумею я яе.

**«НН»: А што валюты ў краіне няма ведаеш?**

**РБ**: А хто не ведае? Гляджу ж тэлебачанне. Пакуль што не сутыкаўся з гэтым.

**«НН»: З Кежманам пазнаёміўся ўжо?**

**РБ**: У вельмі добрых стасунках з ім. Ён размаўляе па-іспанску, я таксама крыху. Некалькі дзён трэніраваліся, усё нармальна.

### Зямляк Зянона

**«НН»: У родным горадзе цябе ўсе ведаюць?**

**РБ**: Ну, відаць. Калі толькі скончылася лёсаванне, то адразу пачыналі пісаць у фэйсбук. Будуць хварэць за мяне. Чакаюць, калі прыеду ў горад.

**«НН»: З Тубарана яшчэ ёсць славутыя футбалісты?**

**РБ**: Некалі за зборную нават гуляў Зянон. У мяне ў дзяцінстве кумірам быў Рамарыё, бо ён шмат забіваў. Потым любіў Жуніньё Пернамбукана, ён гуляў за мой любімы клуб «Васка да Гама». Цяпер для мяне найлепшы футбаліст Мэсі.

**«НН»: З кім сябруеш у Мінску?**

**РБ**: Ёсць і беларусы сябры, але ў асноўным суайчыннікі з мінскага «Дынама». У вольныя дні можам пайсці некуды пасядзець, у боўлінг пагуляць, більярд.

**«НН»: Ты, кажуць, спецыяліст па Play station?**

**РБ**: Ну так, гуляю. Хаця апошнім часам няма з кім. З Мішам Гардзейчуком у клубе гуляць бессэнсоўна. Прайграю 0:3, 0:5. Міша можа перамагчы з заплюшчанымі вачыма.

### Не фанат кавы

**«НН»: Каву любіш?**

**РБ**: Калі шчыра, то не фанат кавы, жонка таксама. Прывозіў хлопцам неяк бразільскай, ім спадабалася. Мне пачка лёгка на год хапае.

**«НН»: Беларускія спіртныя напоі спрабаваў?**

**РБ**: Усё піў. Не вельмі спадабалася, праўда. І гарэлку, і віскі. Магу піць толькі піва і віно. «Аліварыя» някепскае піва.

**«НН»: Цябе часта называюць галоўным жартаўніком БАТЭ.**

**РБ**: Жартуем. Смяюся з Ліхтаровіча і Юрэвіча, што яны дыназаўры, бо самыя старыя ў камандзе. Яны ж мне кажуць, што мне таксама 30 гадоў, а пашпарт я ў Беларусі фальшывы атрымаў.

**«НН»: Па-беларуску што-небудзь ведаеш?**

**РБ**: Цукеркі, бульба, часопіс. Арцём Радзькоў заўсёды мяне вучыць беларускай мове.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Бэтман прызямліўся ў Барысаве

На мінулым тыдні адбыўся самы **гучны трансфер** у гісторыі беларускага футбола — кантракт з БАТЭ заключыў сербскі форвард Матэя Кежман.

Праўда, найвышэйшая кропка кар'еры серба, выгадаванага ў бялградскім «Партызане», ужо мінула. Ён выступаў за галандскі ПСВ і лонданскі «Чэлсі». Потым каманды сталі мяняцца бы пальчаткі. Першую палову гэтага сезона ён наогул правёў у чэмпіянаце Ганконга.

БАТЭ ж, абяскроўлены стратай Віталя Радзівонава — ён выбыў больш чым на паўгода, — за тры дні да заканчэння трансфернага акна ў Еўропе мусіў тэрмінова знайсці замену форварду. Праблема заключалася ў тым, што гэта меўся быць толькі свабодны агент, а такіх было вобмаль.

Старшыня праўлення БАТЭ Анатоль Капскі заінтрыгаваў заўзятараў заявай, што БАТЭ вядзе перамовы з зоркай футбола — не беларусам, і не расійцам. 31 жніўня стала вядома, што размова ідзе пра 32-гадовага серба Кежмана.

Магчымасць выступіць і паказаць сябе ў групавым турніры ЛЧ пераважыла, і Бэтман (так яго называюць заўзятары) падпісаў кантракт з барысаўскім клубам.

Кежман вядомы як шчыры праваслаўны вернік. Разам з тым, ён вялікі аматар татуіровак.

**Алег Гардзіенка**

# Рабаўнікі ўлезлі ў дом брэсцкага мільянера?


Мільянер Аляксандр Машэнскі — адзін з самых пасяховых бізнэсоўцаў краіны.

З катэджа ў прэстыжным раёне вынеслі **18 тысяч даляраў.**

Каля 2 гадзін ночы ў нядзелю ў Дэпартамент аховы паступіў сігнал з дома ў вёсцы Вычулкі. Калі міліцыянты прыехалі на месца здарэння, то ўбачылі трох мужчын, якія па лесвіцы вылазілі з дома.

Пры спробе іх затрымання быў зроблены папераджальны стрэл у паветра. Але злачынцаў гэта не спыніла: толькі аднаго мужчыну затрымалі адразу, а двое збеглі. Але і іх злавілі цягам дня. З дома злачынцы спрабавалі вынесці 18 тысяч даляраў.

Мужчыны мелі пры сабе абрэз, які забыліся на месцы злачынства. Вядома, што ў доме знаходзілася жанчына, якую рабаўнікі звязалі.

Міліцыянты не называюць прозвішчы затрыманых і пацярпелых. Вядома толькі, што двое затрыманых з'яўляюцца берасцейцамі (23 і 19 гадоў), трэці — жыхар Брэсцкага раёна (35 гадоў). Усе раней судзімыя.

Адзін з чытачоў з Брэста паведаміў, што дом належыць Аляксандру Машэнскаму, гендырэктару холдынга «Санта Імпэкс Брэст». У холдынг уваходзяць такія вядомыя прадуктовыя брэнды, як «Санта-Брэмар» і «Савушкаў прадукт».

Вядома, што ў гэтым раёне маецца дом, зарэгістраваны на прозвішча Машэнскага М.Л. Міхаіл Леанідавіч — бацька Аляксандра, заснавальнік холдынга (памёр у 2000 годзе). Мы паспрабавалі пагаварыць з жыхарамі катэджа. Слухаўку ўзняла маладая жанчына. На пытанне, ці можна пагутарыць з Аляксандрам Міхайлавічам, яна адказала: «Не». «Яго няма ці ён тут не бывае?» — «Не бывае». «У нядзелю была спроба абрабаваць...» — «Нічога не магу сказаць на гэты конт», — абарвала пытанне жанчына.

Вёска Вычулкі цяпер знаходзіцца ў мяжы Брэста. Гэта катэджны раён, які размяшчаецца на правым беразе ракі Мухавец, побач з аўтадарогай «Брэст—Мінск».

**Кастусь Матушыч**

**Аляксандр Машэнскі**

нарадзіўся ў 1970 у Брэсце. Закончыў мехмат БДУ (1992). У бізнэсе з 1993. Гендырэктар СП ААТ «Санта Імпэкс Брэст». Член Рады па развіцці прадпрымальніцтва ў Беларусі, ганаровы консул Ісландыі ў Беларусі. Па версіі інтэрнэт-выдання «Ежедневник», Машэнскі ўваходзіць у дзясятку самых паспяховых і ўплывовых бізнэсоўцаў краіны. Валодае актывамі СП ТАА «Санта Імпэкс Брэст», СП ТАА «Санта-Брэмар», ААТ «Савушкаў прадукт».

## Сцісла

### Сям'я расіян загінула пад Барысавам

1 верасня ў лабавым сутыкненні легкавіка і фуры загінула сям'я з Расіі. Трагедыя здарылася на 459-м км аўтадарогі Брэст — Масква — мяжа РФ (М1). За рулём легкавой Honda з расійскімі нумарамі сядзела жанчына 36 гадоў. Разам з ёй у машыне знаходзіўся 40-гадовы муж, а таксама сын (2002 г.) і дачка (1999 г). Усе яны былі прышпілены рамянямі бяспекі. Па незразумелых прычынах жанчына не справілася з кіраваннем аўтамабіля і выехала на сустрэчную паласу, дзе легкавік сутыкнуўся з расійскай фурай.

### Сын экс-прэзідэнта Польшчы разбіўся ў аўтакатастрофе

2 верасня 34-гадовы Яраслаў Валенса **(на фота)**, дэпутат Еўрапарламента, трапіў у аўтакатастрофу. Ён на ўласным матацыкле сутыкнуўся з уседарожнікам Toyota RAV4. Пацярпеламу ў аварыі палітыку зрабілі аперацыю на хрыбце. Медыкі маюць надзею, што ён зможа хадзіць самастойна. Па іх словах, жыццё палітыку ўратаваў матацыклетны шлем.

Паводле папярэдняй інфармацыі, кіроўца аўто Toyota RAV4 парушыў правілы дарожнага руху, выехаўшы на паласу, па якой рухаўся матацыкл Валенсы.



### У Чалябінску адбыўся выцек брому

1 верасня ў Чалябінску (Расія) на чыгуначным вакзале адбыўся выцек брому. У адным з вагонаў разбіліся каля 10 пяцілітровых ёмістасцяў з атрутным рэчывам. У выніку рудое воблака зацягнула частку горада. Атрутнымі парамі надыхаліся сотні чалавек. Спецкамісія абвінаваціла ў здарэнні ўкраінскіх пастаўшчыкоў, якія, нібыта, кепска замацавалі небяспечны груз.

### Літоўская фура пратараніла трактар

На дарозе Полацк—Браслаў фура з літоўскімі нумарамі пратараніла трактар з прычэпам, паведамляе сайт Westki.info. У выніку сутыкнення трактар перакуліўся.

### Школьнік на аўто забіў свайго брата

4 верасня ноччу на дарозе «Астрына — Шчучын — Ваўкавыск» у Мастоўскім раёне Гродзенскай вобласці ў аварыю трапіў «Опель Вектра». Дзесяцікласнік сеў за руль аўтамабіля «Опель Вектра». У салоне было яшчэ пяць чалавек, а па дарозе на дыскатэку яны падабралі двух дзяўчат. На роўным участку дарогі хлопец не справіўся з кіраваннем. Аўто зляцела ў кювет і перавярнулася. У аварыі загінуў 18-гадовы брат кіроўцы. Чацвёра пасажыраў атрымалі раненні.

### Ледзь не патанулі каля «Вострава кахання»

У апошні дзень лета на Заслаўскім вадасховішчы перакулілася яхта з пасажырамі. Здарылася гэта ўвечары каля «Вострава кахання» на адлегласці 1500 м ад берага. 7 чалавек апынуліся ў вадзе. Гісторыя скончылася шчасліва, пацярпелых падабрала іншая яхта, а на бераг іх даставілі выкліканыя супрацоўнікі МНС.

Гэта другі выпадак за лета на Заслаўскім вадасховішчы. 11 чэрвеня ў раёне Ратамкі перакулілася яхта, на борце якой было 5 чалавек. Тады таксама ўсё скончылася шчасліва.

### Цяжарную наркаманку вінавацяць у 48 крадзяжах

28-гадовая мінчанка, якая 5 гадоў стаіць на наркалагічным уліку, абвінавачваецца ў серыі крадзяжоў. Жанчына падазрaецца ў здзяйсненні 46 дробных крадзяжоў і двух крадзяжоў у крамах сталічнага мікраёна Серабранка. Паколькі падазраваная знаходзіцца на шостым месяцы цяжарнасці, яе адпусцілі пад абавязацельства аб яўцы.

**сп**

# П'яныя бэйбусы на Volvo XC90 раструшчылі тры аўто

Суседзі бачылі, як яны сядалі ў аўто, але **не выклікалі ДАІ.**

У ноч 1 верасня жыхары дамоў на вуліцы Лабанка ў Мінску, што каля гіпермаркета «Мацярык», прачнуліся ад моцнага грукату. Потым адзін з іх раскажа, што спачатку падумаў пра абвал даху ў гандлёвым цэнтры. Услед за грукатам сярод прыпаркаваных пад вокнамі аўто залямантавала сігналізацыя.

Тыя, хто падышоў да вокнаў, пабачылі жудасную карціну: пасярод двара нібы ўраган прайшоў — некалькі легкавікоў былі раструшчаныя дазвання, побач коламі дагары ляжаў уседарожнік Volvo XC90. З яго выбіраліся двое.

21-гадовы мянчук са сваім сябрам да позняй ночы піў піва каля свайго ж пад'езда. Прыблізна а 4-й раніцы хлопец вырашыў пакатацца на Volvo XC90, які належыць яго маці. Адсутнасць пасведчання кіроўцы яго не спыніла. Мясцовыя жыхары кажуць, што на пачах за «Мацерыком» часцяком збіраюцца аўтааматары, каб паганяць па пустой стаянцы. Не выключана, што нецвярозая парачка пачала свой заезд адтуль. У пэўны момант кіроўца страціў кантроль за джыпам і той пачаў у літаральным сэнсе прасаваць суседскія легкавікі. Першым трапіўся «Сітраен» — у выніку ад яго мала што засталося. Другім быў калега «Вольва», толькі S60. Яго ад магутнага ўдару кінула на «Фальксваген». А джып урэшце перакуліўся.

Гора-кіроўцу і яго пасажыру моцна пашчасціла, яны атрымалі нязначныя пашкоджанні. Калі прыехала ДАІ, хлопцы не супраціўляліся і не спрабавалі ўцячы. Перад гэтым, як кажуць сведкі, яны паспрабавалі дамовіцца з гаспадыняй разбітага Volvo S60, што выбегла на вуліцу, пачуўшы грукат. Першапачатковая экспертыза паказала, што кіроўца выпіў больш за 2 літры піва, другая засведчыла яшчэ большы ўзровень алкаголю ў крыві.

Пазней высветліліся некаторыя падрабязнасці здарэння. Volvo XC90 гаспадыні, па яе словах, падарыў брат з Масквы. Аўто каштавала каля 50 тысяч даляраў. Разбітыя аўто суседзяў каштуюць каля $40 тысяч.

**Сямён Печанко**

**Колькасць нецвярозых кіроўцаў расце**

За першыя шэсць месяцаў гэтага года ў Беларусі было затрымана каля 25 тысяч нецвярозых кіроўцаў. Гэта на тысячу больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Толькі ў Мінску за гэты перыяд было зафіксавана каля 3800 падобных правапарушэнняў, што на 3% больш, чым летась. З іх 428 чалавек былі затрыманыя паўторна.

Па віне нецвярозых аўтааматараў за гэты час у аварыях загінулі 73 чалавекі і 341 быў паранены.

З 12 жніўня, згодна з пастановай Саўміна, дапушчальны для вадзіцеляў узровень утрымання алкаголю ў крыві зніжаецца з 0,5 да 0,3 праміле. Як правіла, адзначаюць у МУС, утрыманне алкаголю ў крыві затрыманых нецвярозых вадзіцеляў складае ў сярэднім 1–2 праміле.


AUTO.ONLINER.BY

# Сын Якуба Коласа «не трапіў у рэгламент»

**На адкрыцці помніка Песняру падчас Дня беларускага пісьменства ў Ганцавічах не змог выступіць Міхась Міцкевіч.**

Дзень беларускага пісьменства прайшоў у Ганцавічах 4 верасня. Штогадовае свята афіцыйнай Беларушчыны ладзіцца ўжо васямнаццаты раз, яно наведала не адзін знакавы для нацыянальнай культуры горад: Тураў, Навагрудак, Нясвіж, Орша, Пінск... Сёлетні выбар на карысць Ганцавіч абумоўлены з нацяжкай — на Ганцавіччыне, у вёсцы Люсіна, выкладаў пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі малады Якуб Колас. Свой досвед ён апісаў у хрэстаматыйнай трылогіі «На ростанях». Але фактычна месца для Дня пісьменства выбіраюць паводле іншага прынцыпу: вызначаецца горад, які варта паднавіць. Таму, апроч «пісьменніцкага лобі», варта зважаць на чыноўніцкае.

Старшыня райвыканкама Уладзімір Столяр і не хаваў, што з зайздрасцю глядзеў, як дзякуючы Дням пісьменства і Дажынкам абнаўляюцца гарады. «Калі б нас не падтрымаў старшыня аблвыканкама Канстанцін Сумар, напэўна, свята абмінула б Ганцавічы», — адзначыў ён у інтэрвію «Звяздзе». Таксама Ганцавіцкі райвыканкам у канцы 1980-х быў адной з кар'ерных прыступак былога міністра інфармацыі Уладзіміра Русакевіча, што магло дадаць вагі гораду падчас вызначэння кандыдатуры.

Да свята Ганцавічы паднавілі. Беларусізавалі шыльды — кінатэатр стаў «Маладосцю», «Цна» — «рэстаранам». Таксама на загад райвыканкама была створаная «Алея пісьменства» з бюстам Якуба Коласа і памятным знакам «Літаратурная слава Ганцаўшчыны». Помнік Песняру стварылі брэсцкія скульптары Павел Герасіменка і Алеся Грушчанкова — муж і жонка. Радуе, што Колас мае нехрэстаматыйнае маладое аблічча. Скульптары «накапіявалі фота з інтэрнэту» і паводле іх ляпілі твар. Бачна, што за аснову ўзяты здымак «нашаніўскага» Коласа 1908 года.

«Літаратурная слава Ганцаўшчыны» — стылізаваны аркуш з імёнамі пісьменнікаў-землякоў. Наведнікам кінулася ў вока тое, што там уперамешку былі змешчаныя імёны жывых літаратараў і тых, хто ўжо адышоў у лепшы свет.

Многіх здзівіла тое, што падчас афіцыйнага адкрыцця помнікаў слова не браў сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Хоць сярод гасцей свята яго бачылі. Пазней ён сказаў карэспандэнту «НН», што «не паспеў прыехаць у належны час і не трапіў у рэгламент». Хоць, бадай, дзеля Міхася Міцкевіча ад рэгламенту можна было б і адступіць.

Але свята пакінула ў яго пазітыўныя ўражанні: «Так прыемна глядзець на людзей у нацыянальных строях. Усе размаўляюць па-беларуску, акрамя, бадай што, тэлевізійшчыкаў. Арганізавалі файна: і стравы нацыянальныя, і традыцыі, нават самагонку прывезлі, я не каштаваў, праўда. Вельмі прыемна, што гаспадары патрацілі грошы на свята — атрымалася ўсеагульная радасць. Адзінае — музыка была надта гучнай для такога мерапрыемства».

Па-беларуску гаварылі міністр культуры Павел Латушка, праваслаўны архіепіскап пінскі і лунінецкі Сцяфан. Заўважаны быў на свяце і суфраган (дапаможны біскуп) Казімір Вялікаселец каталіцкай Пінскай дыяцэзіі. Вітанні ад Лукашэнкі зачытаў віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік. У ім утрымлівалася традыцыйнае абяцанне «падтрымліваць нацыянальную культуру».

На арганізацыю мерапрыемстваў Міністэрства культуры вылучыла з рэспубліканскага бюджэту 373, 2 млн рублёў.

Налета Дзень беларускага пісьменства мае прайсці ў Глыбокім Віцебскай вобласці.

**Сяргей Мікулевіч, ЮУ**

Рэпартаж

# «Камяніца» расце

**Этна-фестываль «Камяніца» нечакана сабраў некалькі тысяч чалавек, а налета можа стаць міжнародным.**

«Камяніца» была заўважная ад самай паваротки на Музей народнай архітэктуры: абапал шашы на некалькі сот метраў расцягнуліся прыпаркаваныя на ўзбочынах аўто. Гэта натхняла. Як і стаўленне міліцыі, якая прапускала за шлагбаум машыны з малымі дзецьмі — каб ім далёка не тэпаць да фэсту. Натхняла і разнастайнасць публікі — ад беларускамоўнай моладзі ў нацыянальных строях да «пацаноў» са спальных раёнаў. Першых было болей, другія былі гучнейшыя.

Арганізатары прадумана паставілі сцэну ў самым далёкім кутку музея пад адкрытым небам: пакуль дойдзеш, пабачыш цудоўныя драўляныя цэрквы, млыны, свірны, корчмы і абавязкова захочаш спецыяльна прыехаць сюды пагодным днём, каб спакойна ўсё гэта аблазіць.

«Камяніца» абвяргае стэрэатыпы пра аднастайнасць фэстаў этнічнай музыкі. Там удалося пачуць усё ад класічных народных спеваў да фолк-попу і фолк-панку. Выступалі ўдзельнікі «Еўрабачання» «Аляксандра і Канстанцін», «Осіміра» ў звярыных футрах, маладыя гурты. Былі рыцары і мастацкія выставы.

На фэсце палепшаў сэрвіс проці мінулых разоў. Было некалькі пунктаў ля самай сцэны, дзе прадавалі ежу і гарачыя напоі. Але і гэтага было мала — стаялі чэргі. Нібыта арганізатары самі не разлічвалі на такую колькасць слухачоў. А вось алкаголь прадаваўся за паўкіламетра. І плынь людзей цыркулявала ад сцэны да пазнакі «501 метр». «Беларуская карчма», што месцілася там, стала другім эпіцэнтрам фестывалю. Ля яе, каб далёка не хадзіць, наведнікі спявалі песні. Туды ж падцягнуўся самадзейны фальклорны ансамбль. І толькі Алег Скрыпка змог зрабіць сапраўдны лакальны цуд — у карчме стала пуста.

На «Камяніцы» ігралі не «Воплі Відаплясава», а менавіта дыджэй O'Skrypka. Сэт электроннай музыкі ад мэтра ўкраінскага року пераўтварыў этна-фестываль у элітарную па змесце дыскатэку. Як сказаў на прэс-канферэнцыі ён, яго дыджэйскія сэты нават замінаюць гурту: людзі прыходзяць як на «ВВ», а чуюць зусім іншую музыку. Многія слухачы «Камяніцы» таксама праглі папрасіць Скрыпку адысці ад дыджэйскага пульта і ўзяць у рукі баян. Ад расчаравання ратавала магутная Скрыпкава харызма: нават абвестку пра хлопчыка, які згубіў сваіх у фестывальным натоўпе, ён зачытаў так, што многім неадкладна захацелася згубіцца.



**Лідар «ВВ» прызнаўся журналістам, што ён на чвэрць беларус.**

Заставалася суцяшацца яшчэ і тым, што таленавіта зроблены мікс — таксама мастацтва. У міксах былі і ўкраінскія народныя песні, і славянскае кабарэ, і нешта з рэпертуару «ВВ», і беларускі фолк. Менавіта рэміксы беларускіх песняў і тыя моманты, калі Скрыпка сам пачынаў спяваць, адразу «ставілі на вушы» слухачоў. Дарэчы, у «дыджэйскую» праграму Скрыпкі ўваходзіць не менш як 20% беларускага матэрыялу. А сам лідар «ВВ» прызнаўся журналістам, што ён на чвэрць беларус.

Яшчэ Алег Скрыпка **(на фота)** гаварыў пра магчымасць на базе «Камяніцы» супольнага фестывалю, кшталту ягонай «Краіны Мрій», што ладзіцца ва Украіне. І нават гучала ідэя, што такі фестываль можна будзе зладзіць у наступным годзе. Хацелася б бачыць яго ў якасці вялікага опенэйра з некалькімі сцэнамі, дзе можна было б пачуць і беларускі, і ўкраінскі, і літоўскі фолк. А калі не дазволіць эканамічная сітуацыя — «Камяніца» радуе і ў сённяшнім фармаце.

**Юрась Ускоў, СМ**

## Сцісла

### Качмарскі па-беларуску

Барды Віктар Шалкевіч, Андрэй Мельнікаў і Зміцер Вайцюшкевіч пачалі працу над альбомам на вершы Яцэка Качмарскага ў перакладзе Андрэя Хадановіча. Качмарскі — культавы польскі бард часоў «Салідарнасці», асоба, якая па значнасці набліжаецца да Высоцкага ў Расіі. Ініцыятыва запісу альбома сыходзіла ад Генрыка Літвіна, былога амбасадара Польшчы ў Беларусі. Рэліз дыска плануецца ў канцы года, а прэм'ера мае прайсці ў лютым 2012 г.

### Мадонна зняла кіно пра каханне каралёў

Поп-дзіва Мадонна прывезла на Венецыянскі кінафестываль фільм «W.E.». У аснове сюжэта ляжыць гісторыя кахання, з-за якога каралю Вялікабрытаніі Эдварду VIII давялося адмовіцца ад трона. Бо сям'я не магла пагадзіцца на яго шлюб з разведзенай жанчынай. Дзея фільма разгортваецца ў двух часавых слаях: у 1920-я, калі раман толькі пачынаўся, і ў сённяшнім Нью-Ёрку.

### Гімназія № 9 застанецца беларускамоўнай

Чуткі пра трансфармацыю мінскай беларускай гімназіі ў двухмоўную не пацвердзіліся. Як патлумачылі ў адміністрацыі школы, расійскамоўныя класы з іншых школ перавялі ў гімназію па прычыне закрыцця тых школ. Гімназія ж застанецца беларускамоўнай. У цэлым у Мінску колькасць беларускамоўных школьнікаў і школ апошнія гады расла.

### Памёр апошні з магіканаў рок-н-рола

Увечары 29 жніўня памёр адзін з апошніх выканаўцаў дэльта-блюза Дэвід Ханібой Эдвардс. Яму было 96 гадоў. Ад дэльта-блюза бярэ пачатак палова жанраў сучаснай папулярнай музыкі.

**СМ**

## Вялікае Княства Паэзіі

8—9 верасня ў Мінску пройдзе міжнародны літаратурны фестываль «Вялікае Княства Паэзіі», прысвечаны 100-годдзю нобелеўскага лаўрэата Чэслава Мілаша. Удзел бяруць паэты Наталля Гарбанеўская (Польшча/Францыя/Расія), Рышард Крыніцкі, Яцэк Гутараў (Польшча), Эўгеніюс Алішанка, Вітас Дэкшніс, Данатас Пятрошус (Літва), Марыяна Кіяноўская, Алег Лышэга (Украіна), Уладзімір Арлоў, Ігар Бабкоў, Марыя Мартысевіч, Алесь Разанаў, Віталь Рыжкоў, Андрэй Хадановіч (Беларусь). 8 верасня ў 18.30 у зале Акадэміі музыкі (вул. Інтэрнацыянальная, 30) пройдзе прэзентацыя беларускага чатырохтоміка Чэслава Мілаша і аўдыёкнігі «Чалавек шматпавярховы» (пры ўдзеле гурта «Рацыянальная дыета»). 9 верасня ў 19.00 у Доме культуры ветэранаў (вул. Янкі Купалы 21) — паэтычны вечар. У межах імпрэзы пройдзе прэзентацыя кнігі Марыі Мартысевіч «Амбасада» і Віталя Рыжкова «Дзверы, замкнёныя на ключы» і канцэрт Таццяны Беланогай. Уваход на ўсе імпрэзы фестывалю вольны.

**СМ**

# «П'яная руская дзевачка» ў Касцюковічах — гераіня інтэрнэту




Яе могуць **пазбавіць пасведчання** кіроўцы на тры гады.

Напрыканцы жніўня ў Касцюковічах (Магілёўская вобласць) здарыўся інцыдэнт, удзельнікі якога сталі героямі інтэрнэту не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі.

Супрацоўнікі ДПС затрымалі маладую пару. Хлопец і дзяўчына знаходзіліся ў легкавіку BMW з расійскімі нумарамі. Абое былі відавочна нецвярозымі. Дзяўчына катэгарычна адмовілася прад'яўляць дакументы, пачала хаміць і нават біць міліцыянтаў кулакамі і нагамі.

У часе затрымання яна неаднаразова заяўляла, што з'яўляецца грамадзянкай Расіі. Калі яе ўсё ж пасадзілі ў міліцэйскае аўто, яна здолела выбіць у ім акно.

У выніку на парушальніцу склалі два пратаколы: за дробнае хуліганства і кіраванне ў нецвярозым стане. Яна заплаціла штраф і кампенсавала кошт разбітага шкла. Цяпер яе чакае суд за кіраванне ў нецвярозым стане.

Паколькі дзяўчына запатрабавала ўзяць у яе аналіз крыві, каб даказаць, што яна была п'яная, суд адбудзецца не раней за з'яўленне вынікаў праверкі. У ДАІ сцвярджаюць, што парушальніцу пазбавяць пасведчання кіроўцы на тры гады.

Здарэнне ў Касцюковічах запісаў на відэа выпадковы відавочца. Ролік быў размешчаны на You Tube, і яго персанажы імгненна сталі героямі інтэрнэту. За тыдзень ролік сабраў больш за 260 тысяч праглядаў і больш за 2000 каментароў.

У асноўным, каментаванне факусуецца на нацыянальнасці парушальнікаў. Першапачаткова паведамлялася, што абое затрыманых з'яўляюцца грамадзянамі Расіі. Відэа мела назву «П'яная руская дзевачка ў Беларусі». Некаторыя карыстальнікі з Расіі напісалі, што нецвярозая гераіня відэа ганьбіць іх краіну. Частка ж беларусаў звярнула ўвагу, што нашы міліцыянты занадта карэктна паставіліся да «гасцей з Расіі», у адрозненне ад таго, як яны разганяюць акцыі ў Беларусі.

Пазней пытанне нацыянальнай прыналежнасці парушальнікаў было знятае. Па інфармацыі ДАІ, гераіня роліка — ураджэнка Латвіі 1979 г.н., пражывае ў Падмаскоўі, мае від на жыхарства ў Беларусі. Яе бацька жыве ў Касцюковічах, да яго яна прыехала ў госці. Яе пасажыр — выхадзец з Касцюковіцкага раёна, пражывае ў Санкт-Пецярбургу.

**Сямён Печанко**

# У Мсціславе расіяне пабіліся з беларусамі ў чарзе па прадукты

Міліцыя: канфлікты ў чэргах ёсць, але нарад не выклікаўся.

У інтэрнэце з'явілася інфармацыя, што ў цэнтральным універмагу Мсціслава адбылася бойка мясцовых жыхароў і прыезджых расейцаў. Інцыдэнт справакавала расіянка, якая абразіла беларуску. З прычыны гэтага завязалася бойка паміж беларусамі і расіянамі, якія прыязджаюць у Мсціслаў па прадукты.

Мсціслаў – гэта самы ўсход Беларусі, за 10 кіламетраў да расійскай мяжы. Як піша telegraf.by са спасылкай на паведамленне беларускага блогера lesnoi-slon, расійцы пачалі ездзіць сюды па харчы тры-чатыры месяцы таму — адразу пасля таго, як у Беларусі ўпаў курс нацвалюты. Грамадзяне Расіі прычэпамі вывозяць і прадукты харчавання, і вопратку, і тэхніку.

У цэнтральным універмагу заўсёды стаяць чэргі: расійцы скупляюць ежу мяшкамі, а вопратку і абутак — па некалькі камплектаў, не мераючы. У выхадныя з аўтамабіляў, якія заязджаюць на мясцовы рынак, кожны другі — з расійскімі нумарамі. Гэта выклікае незадаволенасць мясцовых жыхароў.

Па-першае, кошты ў горадзе растуць хутчэй, чым у Мінску, а па-другое — прадаўцы імкнуцца прадаць свой тавар у першую чаргу замежнікам — даражэй і за валюту. Беларусы ж стаяць у чэргах гадзінамі.

Супрацоўніца Мсціслаўскай пошты ў абедзенны перапынак забегла ва ўнівермаг купіць пакет малака. Жанчына папрасіла людзей, якія стаяць у касу, прапусціць яе без чаргі, паколькі спазнялася на працу. Аднак пасля гэтай просьбы пачула абразы ад прыстойнай на выгляд жанчыны: «Вы, беларусы, — быдла, цярпілы і зброд, вы ў нас у Расіі будзеце рабамі, вы будзеце туалеты драіць, ды і тое, калі мы вырашым».

У адказ на гэта беларуска стала хвастаць расіянку набытым пакетам малака. За апошнюю заступіліся яе суайчыннікі, а беларусы — за сваю. Блогеры пішуць, што проста ў краме пачалася бойка, больш за дзесяць чалавек апынуліся запэцканыя малаком і смятанай. Супакоіць пакупнікоў змаглі толькі міліцыянты. Да расійцаў прэтэнзій яны не выказалі, а беларуску, якая пачала бойку, затрымалі. Ці прад'явілі ёй якія-небудзь абвінавачанні, невядома. Імя жанчыны не выдаецца.

Пасля бойкі расійцам адпускаюць толькі па адной палцы каўбасы.

Бойка выклікала рэзананс ва ўсім Мсціславе, яе абмяркоўвалі і на нарадзе ў выканкаме. «Прычым гаварылася ў тым кантэксце, што «адбыўся абуральны інцыдэнт, былі збітыя госці нашага горада», — адзначыў блогер lesnoi_slon.

**Беларуска стала хвастаць расіянку пакетам малака.** »

«НН» звярнулася ў Мсціслаўскі РАУС з просьбай пракаментаваць гэтае паведамленне. Там адказалі, што канфлікты ў чэргах у мсціслаўскіх крамах сапраўды ёсць, але яны не выходзяць «за рамкі» і маюць форму слоўных перапалак. У прыватнасці, не было ніводнага выпадку, каб з нагоды канфлікту ў чарзе выклікалі нарад міліцыі, падкрэсліў супрацоўнік РАУС.

Між тым, як паведаміў пазней той самы блогер са спасылкай на сваіх знаёмых у Мсціславе, пасля інцыдэнту ў цэнтральным універмагу пачалі дзяжурыць супрацоўнікі падатковай інспекцыі і міліцыі. Яны сочаць за тым, каб прыезджыя расійцы не скуплялі ўсю прадукцыю. Акрамя таго, прваахоўныя органы забаранілі знаходзіцца тут валютчыкам.

**Сяргей Мікулевіч**

# Думбадзэ пакінуў «Адкрыты фармат», а Дарафееў уладкаваўся ва Украіне

«Калі помніце, «Адкрыты фармат» з'явіўся ў няпросты час, і нам з Вячаславам Бандарэнкам толькі ўдвух было пад сілу вывесці праграму на належны ўзровень. Але цяпер, я думаю, у яго ўсё атрымаецца і без мяне. А хацеў бы працягнуць здымаць «Подых планеты» — гэта маё дзіця, мая стыхія», — цытуе вядучага Тэнгіза Думбадзэ «Советская Белоруссия».

Па словах Думбадзэ, ён сам вырашыў пакінуць праект. Цяпер ён рыхтуе да выпуску праграму пра Сірыю. «Тое, што я ўбачыў, каардынальна адрозніваецца ад таго, што паказваюць іншыя тэлеканалы, у прыватнасці, Euronews».

«Адкрыты фармат» — ток-шоу, якое змяніла назву адразу пасля скандальнага выпуску праекту «Выбар» Сяргея Дарафеева. Вядучымі новага шоу сталі Вячаслаў Бандарэнка і Тэнгіз Думбадзэ.

Што тычыцца самога Дарафеева, то ён нарэшце працаўладкаваўся. Журналіст падпісаў трохгадовы кантракт з украінскім «5 каналам» і будзе рабіць там сваё аналітычнае шоў. Яно па сваёй форме будзе нагадваць праграму «Выбар». У Кіеве ён правёў усё лета, а праграма стартуе ўвосень.

Дарафееў будзе весці яе па-расейску, але актыўна асвойвае і ўкраінскую мову. Яго тата — украінец, бацькі вучыліся ў Кіеве і размаўлялі па-ўкраінску.

Таксама на ўкраінскіх тэлеканалах у гэтым сезоне будуць працаваць іншыя беларускія вядучыя — Сяргей Кузін і Георгій Калдун.

На гэтым тыдні Сяргей Дарафееў звярнуўся з адкрытым лістом да беларускіх гледачоў. Прачытаць яго можна на сайце nn.by.

**Кастусь Матушыч**


Сяргей Дарафееў абяцае вывучыць украінскую мову.

# Ганцавіцкі раён: **непазбежнасць знікнення**

Я заўсёды смяюся, калі чую ўсе гэтыя «Ганцаўшчына», «Лунінеччына» ці «Баранавіччына». Піша **Анатоль Сідарэвіч**.



**Анатоль Сідарэвіч**
гісторык, найлепшы знаўца беларускага руху XX ст., адзін з ініцыятараў адраджэння сацыял-дэмакратыі ў Беларусі. Нарадзіўся ў вёсцы Задуб'е Ганцавіцкага раёна.

Я з іроніяй паставіўся да весткі, што Дзень беларускага пісьменства сёлета прайшоў у Ганцавічах. З якога часу паселішча, якому 125 год, стае горадам-сімвалам беларускага пісьменства? Вось чаму я з цікавасцю прачытаў эсэ Анатоля Трафімчыка «Як узнікла Ганцаўшчына» на сайце часопіса ARCHE.

### Моўны падзел

Анатоль Трафімчык, чалавек круговіцкі [Круговічы — вёска ў Ганцавіцкім раёне — Рэд.], падзяліў Ганцавіцкі раён на тры моўна-культурныя зоны: слуцкую, наваградскую і пінскую.

Што датычыць трэцяй зоны, то ў лінгвістычных адносінах я не згаджуся з Анатолем, бо ўласна Піншчына — гэта Заходняе Палессе, а акадэмік Яўхім Карскі, апісваючы гаворкі нашай стараны, аднёс Бобрык, Малкавічы і іншыя паселішчы да ўласна беларускага, а не заходнепалескага арэалу.

Забярэззе (самы паўночны пункт Пінскага раёна) — гэта востраў чыстай беларускай гаворкі. Магчыма, прычына ў тым, што палавіна жыхароў былі каталікамі, перасяленцамі з Цэнтральнай Беларусі, якіх мясцовыя жыхары называлі літвінамі. Гаворка ў Яловай (самы паўднёвы пункт Ганцавіцкага раёна) таксама не заходнепалеская. Малкавічы, Люсіна і Макава маюць сваю моўную спецыфіку. Тут можна было правяраць правапіс «дз» і «ц»: яшчэ ў 1960-х мясцовыя жыхары казалі «дзадзко» (дзядзька), «цотка» (цётка), «дзэ» (дзе), «цапэр» (цяпер).

У цэлым Ганцавіцкі раён — гэта месца, дзе перасякаюцца мазырская, слуцкая, гродзенска-баранавіцкая і пінская гаворкі, бо, імаверна, калісьці перасякаліся розныя славянскія і балцкія плямёны. Вось што такое так званая Ганцаўшчына ў моўным аспекце.

Перайдзем да адміністрацыйнага падзелу.

У час Вялікага Княства Літоўскага цяперашні Ганцавіцкі раён уваходзіў у склад Наваградскага павета Наваградскага ваяводства. За царамі тэрыторыя сучаснага раёна трапіла ў склад Менскай губерні.

У 1921 г. Круговіцкая і Хатыніцкая гміны трапілі ў наваствораны Лунінецкі павет Палескага ваяводства. За саветамі — увайшлі ў Ганцавіцкі раён Пінскай вобласці. Да раёна далучылі таксама в. Задуб'е Дабраслаўскай гміны, Чудзін і Пярэвалакі Чучавіцкай гміны і Ліпск Лунінскай гміны.

У 1962-м у Ляхавіцкі раён трапілі ўсе сельсаветы раёна, апроч Малкавіцкага, які аддалі ў Лунінецкі раён. Ганцавічы сталі простым гарпасёлкам. Я быў сведкам аднаўлення Ганцавіцкага раёна ў 1966 годзе.

**«Дзадзко» — гэта дзядзька.**

### Чаму вылучыліся прыстанцыйныя Ганцавічы?

Ганцавічы (не вёска, а прыстанцыйнае паселішча, якое з'явілася на мапе год 125 таму), «выбіліся ў людзі» ў 1939 г. За Польшчаю ў Ганцавічах меўся раённы камітэт КПЗБ. Гэта адзін са штрыхоў да гісторыі намінавання Ганцавіч на статус раённага цэнтра.

Хачу запярэчыць Анатолю Трафімчыку. Ганцавічы выраслі не толькі дзякуючы чыгунцы і актыўнасці габрэяў. Паўз Любашава ішоў стары тракт з Пінска на Клецк, а з Клецка дарога разыходзілася на Слуцк і (праз Ляхавічы) на Слонім. Таму прыстанцыйныя Ганцавічы раслі ў бок Любашава. Немалое значэнне мела і тое, што пасёлак Ганцавічы атрымаў статус раённага цэнтра.

Што такое статус заштатнага горада, відаць на прыкладзе Давыд-Гарадка, у якім перад Першай сусветнай жыло каля 17 тысяч чалавек і які толькі кароткі час пабыў раённым цэнтрам. У 1993 годзе ў ім налічвалася 7,6 тыс. жыхароў. Затое Столін, у якім за царом было 3,3 тысячы, вырас да 2000 года ў 3,7 раза (12 200 жыхароў). Ведама, горад можа вырасці і застаючыся заштатным, але патрэбныя асаблівыя ўмовы. Прыкладам, рабочы пасёлак Мікашэвічы, каля якога маюцца паклады граніту, па колькасці насельніцтва даганяе раённы цэнтр Лунінец.

### Ці ёсць у Ганцавіцкага раёна перспектывы?

Беларусі не пашанцавала. Пры планавай «сацыялістычнай» гаспадарцы па-дурному адбывалася размяшчэнне прадукцыйных сіл. У выніку Беларусь стала «карлікам з вялікай галавой». Калі б не бальшавіцкая гігантаманія, сталіца была б меншаю, затое пабольшалі б Кобрын, Лунінец, Слонім, Навагрудак...

Ганцавіцкі раён дэградуе. Мінск высмоктвае працоўныя рэсурсы субрэгіёнаў. Колькі ганцавіцкіх хлопцаў працуе ў Мінску і пад Мінскам! Нешта забіраюць Баранавічы, Пінск і Лунінец. А таксама Расія. Уцякаюць у буйныя цэнтры і прадпрымальныя людзі. Хто тут будзе гаспадарыць праз дзесяць год?

Ага, у вёсцы Малкавічы, у Хатынічах пабудавалі аграгарадкі. Убухторылі грошыкі. Няма сумневаў, іх чакае такі ж лёс, як і вёскі, якія на пачатку 1960-х былі названыя перспектыўнымі.

Раней ці пазней — хоць бы дзеля адных дэмаграфічных прычынаў — Ганцавіцкі раён давядзецца скасаваць і падзяліць.

Нашы эканомгеографы даўно маюць план новага адміністрацыйнага падзелу. Тая частка Ганцавіцкага раёна, што ўваходзіла ў Слуцкі павет, несумненна трапіць у Баранавіцкі павет (акругу). Малкавіцкаму і Люсінскаму сельсаветам мо зручней было б стаць часткаю Лунінецкай акругі. З этнакультурных меркаванняў да Лунінца варта было б далучыць і Хатыніцкі сельсавет. Але тут праблема камунікацый.

Малазаселены, лясістабалоцісты поўдзень Ганцавіцкага раёна пры ўмове забалочвання тарфянікаў можа ператварыцца ў запаведнік (Ялоўскі журавінавы ўжо маецца).

Ганцавічы чакае непазбежнае развітанне са статусам раённага цэнтра, а самому паняццю «Ганцаўшчына» — і тут я цалкам згодны з Анатолем Трафімчыкам — прыйдзе канец. Бо гістарычна «Ляхаўшчына» — гэта Наваградчына, «Лунінеччына» — часткі Піншчыны і Мазыршчыны, а «Баранавіччына» — Наваградчыны і Слонімшчыны.

*Друкуецца ў скароце.*

# Беларуская глыбіня

Наколькі расійская душа шырокая, настолькі беларуская глыбокая. Піша палітвязень **Павал Севярынец**.

*Ён адкрывае глыбокае і стоенае, ведае, што ў змроку, і святло жыве з Ім.*
*Даніла 2:22*

У турме адзін мудры чалавек сказаў мне: «Не пытай сябе ў няволі — «За што?». Спытай — «Дзеля чаго?».

Дзеля чаго Гаспод дае табе крыж часу і прасторы, новы пачатак каардынатаў у жыцці, новых людзей, новыя вобразы і падабенствы Свае? Чым ачысціць, адновіць і напоўніць яны тваё сэрца?

У параўнанні з Малым Сітнам у Купліне святлей. Больш сонца: як-ніяк, паўтысячы кіламетраў на поўдзень. Раённыя Пружаны чысценькія, вымеценыя, у кветачкі. Святлейшы лес — не елка ды хвоя, а ясень, бяроза, таполя, дуб, клён. Святлейшыя вочы — тут усё-такі Заходняя Беларусь, няма сіценскага адчаю. Святлей ад жывое веры і мовы. Светла ў царкве — ад белых галоваў мужыкоў і дзяцей.

І глыбіня.

«Шырокая руская душа, — сказаў праз Івана Карамазава найглыбейшы расейскі пісьменнік і беларус Дастаеўскі, чыё родавае гняздо Дастоева ў гадзіне язды ад Купліна, — я б звузіў». Дык вось, наколькі расейская душа шырокая, настолькі беларуская глыбокая — як беларуская пакута, беларускае цярпенне, беларускае балота. Беларусы, у адрозненне ад расейцаў, украінцаў, палякаў, — інтраверты, заглыбленыя ў сябе. Таму беларуская глыбінка — гэта не правінцыя. Багна? Бездань? Глыбіня.

Тут — патаемная глыбіня: пад Белавежскай Пушчай у савецкія часы размяшчаліся стратэгічныя аэрадромы, нацэленыя на Еўропу. У самай такой беларускай глыбіні без адзінага стрэлу зруйнавалі найвялікшую імперыю зла: Віскулі таксама ў Пружанскім раёне.

Увогуле, гэта берасцейскае наваколле паміж Палессем і Літвой, паміж Белавежжай і Выганашчанскімі балотамі — Пружаны, Бяроза, Івацэвічы, Кобрын — глыбокае. Глыбокае, як магутнасць роду Сапегаў, чый замак у Ружанах уражвае падзем'ямі ў некалькі паверхаў, прызначанымі для вялікалітоўскіх скарбаў; як унікальны тэнар Міхася Забэйды-Суміцкага, ураджэнца тутэйшых Шэйпічаў; як тысячы народных мелодыяў са збору пружанца Рыгора Шырмы; як балады Андрэя Макаравіча з «Машыны часу», чые дзяды з ваколіцаў Малеча; як 600 тамоў прозы Юзафа Крашэўскага, чый род калісьці валодаў Старым Купліным; як хрыплы крык, вырваны з самага сэрца Уладзіміра Высоцкага, чые продкі — з Сяльца Бярозаўскага раёна; як верлібры Алеся Разанава (з таго ж Сяльца); як бас Анатоля Папанава, вязня з «Халоднага лета 53-га» і «ваўка» з мультфільма «Ну, пачакай!», чыя матуля перадала сыну непаўторна ёмісты тутэйшы выгавар; як пераклады Васіля Сёмухі з блізкага хутара Ясенец, асабліва калі чытаеш Слова Божае ў Сёмухавым перакладзе; як вера ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага (мястэчка Поразава адсюль рукой падаць), аднаго з заснавальнікаў БНР і БХД, таго самага ксяндза, што распачаў імшу па-беларуску і быў расстраляны ў Трасцянцы гестапаўцамі ў ноч на Раство 1942 г.; як веданне Бібліі беларускімі баптыстамі, чыёй сталіцай ёсць Кобрын; як удых волі Тадэвуша Касцюшкі з Мерачоўшчыны, за паўсотні кіламетраў адсюль; як мясцовыя тарфяныя балоты, у адным з якіх, Гатча-Восаўскім, знайшлі адзінае ў Беларусі прамысловае радовішча бурштыну; як пружанскі антыалкагольны рух сялянаў 1846—1848 гг., што перакінуўся на суседнія губерні; як здрада Азефа, ураджэнца вёскі Лыскава, кіраўніка баявой арганізацыі эсэраў, які арганізоўваў забойствы вышэйшых чыноў імперыі і адначасова «здаваў» паплечнікаў; і, урэшце, як бездань падзення курса беларускага рубля пасля сыходу пружанскага вылучэнца, Пятра Пятровіча Пракаповіча...



**Павал Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

**Не пытай сябе ў няволі — «За што?». Спытай — «Дзеля чаго?»**

І вось Гаспод дае акунуцца ў гэтую глыбіню — акунуцца разам з сотнямі насельнікаў куплінскай «хіміі», наведнікамі і міліцыянтамі. Глядзіш у вочы юным беларусам, у бяздонныя вочы пакалення незалежнасці, бачыш будучыню, што пакутуе, п'е да анабіёзу, перакідаецца мацюкамі і мроіць пра шчасце — і аж правальваешся, колькі тут глыбока роднага і глыбока чужога!

Дзеля чаго — ёсць час падумаць. Час адкрыць новыя цуды ў звыклым, забытым і занядбаным. І зразумець, што сённяшнім нашым беларускім скрыжаваннем часу і прасторы валодае не Лукашэнка і не Расійская імперыя, а Сам Гаспод Бог.

*Куплін*

# Баі падушкамі да Дня беларускай вайсковай славы



«Пасля гадавога перапынку мы зноў запускаем самую пазітыўную мінскую дзвіжуху», — з’явіўся запіс у суполцы «Вконтакте» «Бой падушкамі».

Сустрэча запланавана на 10 верасня, у 17:00 у Парку Горкага. «На гэты раз усё легальна», — напісана ў суполцы.

«У праграме: фінал індывідуальных баёў падушкамі і, канечне, грандыёзны махач паміж камандамі белых і чырвоных», — кажуць арганізатары. Удзельнікаў просяць узяць з сабой падушкі і добры настрой.

Мінулыя разы бойкі падушкамі былі прымеркаваныя да знакавых бітваў беларускай гісторыі. Напрыклад, да Грунвальдскай. 8 верасня — дзень бітвы пад Оршай.

## ХАКЕЙ

### Пачатак КХЛ

**ХК «Дынама-Мінск» стартуе ў новым сезоне КХЛ.** Пачынаецца ён серыяй з пяці хатніх паядынкаў.

**8 верасня** (чацвер) — матч з «Лакаматывам» (19:00), **10 верасня** (субота) — з «Металургам» (Магнітагорск, 17:00), **12 верасня** (панядзелак) — з «Авангардам» (Омск, 19:00), **14 верасня** (серада) — з «Югрой» (Ханты-Мансійск, 19:00), **16 верасня** (пятніца) — з Тарпеда» (Ніжні Ноўгарад, 19:00). Цана білетаў — ад 12 тыс. да 100 тыс. У касах горада, а таксама на ticketpro.by

## ФУТБОЛ

**У выходныя пройдзе 24-ы тур Чэмпіянату Беларусі па футболе.** 10 верасня: «Шахцёр» — БАТЭ. 11 верасня: Дынама (Брэст) — «Нёман», «Тарпеда-БЕЛАЗ» — «Дняпро», «Дынама» (Мінск) — «Віцебск», «Белшына» — «Гомель», «Нафтан» — «Мінск».

## ВОСЕНЬСКІ КІРМАШ

**Ад 5 да 11 верасня ў выставачным цэнтры «БелЭкспа»** пройдзе «Восеньскі кірмаш». Можна будзе купіць самую свежую гародніну і садавіну.

## ТАНЦЫ

### Capital Cup Minsk-2011

**Міжнародныя спаборніцтвы па спартыўных бальных танцах Capital Cup Minsk-2011** адбудуцца 10—11 верасня ў «Мінск-Арэне». **Пачатак а 10-й.**

## ІМПРЭЗЫ

### Месяц нямецкай літаратуры ў кнігарні «ЛогвінаЎ»

**Цэлы верасень у цэнтры Мінска ў кнігарні «ЛогвінаЎ» (пр. Незалежнасці, 37а)** будзе стаяць вялікая паліца з нямецкімі, аўстрыйскімі і швейцарскімі кніжкамі. Сучасныя і класічныя, перакладзеныя і ў арыгінале — падыходзь і набывай ці проста чытай. Акрамя гэтага ў кнігарні можна будзе азнаёміцца з нямецкімі газетамі і мастацкімі альбомамі нямецкіх ілюстратараў.

**Расклад імпрэзаў «Месяца нямецкай літаратуры ў кнігарні «ЛогвінаЎ»:**

**10 верасня** — дзіцячы ранішнік «Guten Tag, Tanaka! Падарожжа Капітана Танакі ў незвычайную краіну Германію» з прызамі і чаепіццём. Вядучы — пластылінавых спраў майстра Алесь Кудрыцкі. **Пачатак а 14-й.**

**12 верасня** (панядзелак) — Вечар сучаснай нямецкай літаратуры. Падвядзенне вынікаў конкурсу Інстытута імя Гётэ і часопіса «Прайдзісвет» на пераклад навелы Гайнрыха фон Кляйста.

**17 верасня** (субота) — Нон-стоп паказ 3 стужак рэжысёра Фатыха Акіна на нямецкай мове. **Пачатак а 14-й.** Уваход — вольны.

**19 верасня** (панядзелак) — Творчая вечарына перакладчыка Васіля Сёмухі. **Пачатак а 19-й.**

**26 верасня** (панядзелак) — Сустрэча са швейцарскім пісьменнікам Йенсам Нільзэнам. **Пачатак а 20-й.**



## КАНЦЭРТЫ

### Ірландскія танцы

**Фолк-гурт «Рагнеда» і ансамбль ірландскага танца Bass dance 27 верасня а 19-й** выступіць на сцэне Вялікай залы Белдзяржфілармоніі. **Пачатак а 19-й.**

### Наталля Ліпніцкая

**Малая зала імя Р.Шырмы запрашае 26 верасня** на канцэрт лаўрэата міжнародных конкурсаў Наталлі Ліпніцкай (гітара). **Пачатак а 19-й.**

### Noize MC



**30 верасня ў клубе «RE:Public» (вул. Прытыцкага, 62)** выступае Noize MC — адзін з найлепшых расійскіх фрыстайлераў, безумоўная велічыня расійскага хіп-хопа. **Пачатак а 19-й.**

### Весна Касэрас у Мінску

**8 верасня ў «Лісінай нары» (вул. Каліноўскага, 32)** заспявае адна з найбольш папулярных спявачак пражскіх клубаў Весна Касэрас (Чэхія). Разам з ёй выступіць джаз-гурт Apple Tea. У праграме — боса-новы на партугальскай мове. **Пачатак у 19.30.**

### Гаротніца

**9 верасня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — «Гаротніца».

### Князь Мышкін

**9 верасня а 19-й у «Містралі» (вул. Валадарскага, 22)** — «Князь Мышкін».

## ВЫСТАВЫ

### Жыццё ў колерах вясёлкі

**У паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** да 11 верасня працуе выстава жывапісу Паўлы Кароткай. Вынікам яе захаплення выяўленчым мастацтвам стала серыя жывапісных прац пад назвай «Жыццё ў колерах вясёлкі». Яны аб’яднаныя агульным стылем выканання, які аўтар назвала sensuality, эмацыянальнасцю і яркай вобразнасцю персанажаў.

### «Млыны Беларусі»

**Да 18 верасня ў Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе выстава жывапісных работ Віктара Нямцова «Млыны Беларусі». Віктар Нямцоў займаецца вывучэннем ветракоў і вадзяных млыноў у розных рэгіёнах Беларусі. Яны вабяць мастака шматзначным і адметным выглядам. Нямцоў займаецца гістарычна-жывапіснай рэканструкцыяй — на яго карцінах з занядбаных рэшткаў зноў узрастаюць асілкі-млыны.

### Лялька — таксама чалавек

**Ад 1 да 8 верасня на сцэне Тэатра лялек** пройдзе фестываль польскіх спектакляў і анімацыйнага кіно для дарослых «Лялька — таксама чалавек». Гледачы ўбачаць анімацыйныя работы студыяў «СЕ-МА-ФОР» і «Серафіньскі», а таксама сюіту для тэкстуры і кантрабаса «Уніі Немагчымы Тэатр» «Топарланд» і спектакль «Другі пакой».

## ТЭАТРЫ

### 7 верасня

**Лялек** — «Лялька — таксама чалавек»

### 8 верасня

**Лялек** — «Лялька — таксама чалавек»

### 9 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»

### 10 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Чайка»

### 11 верасня

**Оперы і балета** — «Сільфіда»

### 12 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»

### 13 верасня

**Купалаўскі** — «Я не пакіну цябе»
**Беларускай драматургіі** — «Адвечная песня»
**Оперы і балета** — «Трыстан і Ізольда. Балеро»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»

### 14 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»

### 15 верасня

**Купалаўскі** — «Хам»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Кармэн»

### 16 верасня

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Жан і Беатрыса»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»

### 17 верасня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Юнага гледача** — «Кот у ботах»

### 18 верасня

**Юнага гледача** — «Брык і Шуся шукаюць лета»
**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»

## КІНО

### Галівудскі аналаг Нязнайкі з сябрамі

**Смурфікі (Smurfs)**
ЗША, 2011, каляровы, 3D
**Рэжысёр:** Раджа Госнэл
**Ролі выконваюць:** Ніл Патрык Гары, Хэнк Азарыя, Джэйма Мэйс, Сафія Вергара
**Жанр:** Камедыйныя анімацыйна-іграваля прыгоды для дзяцей
**Адзнака:** 4,5 (з 10)

Блакітныя гномікі смурфікі шчасна жывуць у чароўнай грыбной вёсцы. Але ім даводзіцца ратавацца ад злога чараўніка Гаргамеля. Так яны трапляюць у сучасны Нью-Ёрк.

Цяпер гномікам трэба вярнуцца дадому, а заадно навучыць кар’ерыста.

Карціна Раджы Госнэла разлічана на маленькіх дзяцей, якіх прывядуць у кіно бацькі. Самі смурфікі нагадваюць Нязнайку з сябрамі, хаця маюць коміксавае паходжанне.

Прыгоды амерыканскіх гномікаў шчодра разбаўленыя нуднаватымі развагамі дзядзі, працоўнаістэрычнымі праблемамі цёці — і лёгкім сарцірным гумарам, невынішчальным у галівудскім кіно.

Смурфікі, як цацкі, мілыя, але нічога большага.

**Андрэй Расінскі**



# Беларускі інтэрнэт самы танны сярод суседзяў




PHOTO BYMEDIA.NET

| Краіна | Хуткасць | Кошт (у $) |
|---|---|---|
| Беларусь | 1 Мб | 6 |
| Расія | 3 Мб | 10,5 |
| Украіна | 5 Мб | 6,25 |
| Латвія | 2 Мб | 13 |
| Польшча | 6 Мб | 20 |

Пасля абвалу рубля **месяц безлімітнага доступу** ў інтэрнэт каштуе ўсяго $6.

Інтэрнэт уваходзіць у лік тых тавараў, якія нават у крызіс амаль не падаражэлі. Некаторыя аператары ўсё ж былі вымушаныя падняць кошты, каб вярнуць сабе рэнтабельнасць, але манапаліст «Белтэлекам» замарозіў цэны. У беларускіх рублях месячны безлімітны трафік з хуткасцю 1 Мбіт/с каштуе 54 тысячы. Гэта ўсяго $6 у эквіваленце (па чорным курсе даляра). З павышэннем хуткасці ўзрастае цана, але нязначна. Напрыклад, 80 тысяч рублёў за 2 Мбіт/с і 100 тысяч за 3 Мбіт/с.

Галоўная перавага «Белтэлекама» і ягонага праекту ByFly ў тым, што інтэрнэт даступны ўсім, у каго ёсць стацыянарны тэлефон, — амаль усёй рэспубліцы. Дзясяткі іншых правайдараў — «Дзелавая сетка», «Айчына», «КосмасТВ»... — фактычна перапрадаюць трафік «Белтэлекама», таму не могуць выстаўляць ніжэйшыя кошты. Яны прыцягваюць абанентаў большай колькасцю дадатковых паслугаў, ствараючы раённыя сеткі.

А колькі плацяць за інтэрнэт нашыя суседзі?

### Расія

Гіганцкія памеры дзяржавы не дазваляюць скласці дакладнае ўражанне пра інтэрнэтызацыю. У Маскве і Санкт-Пецярбургу па інтэрнэце можна лятаць з шалёнай хуткасцю, а ў аддаленых рэгіёнах адсутнічае не тое што інтэрнэт, нават тэлефонная сетка.

Цэннік застаецца прыблізна такім самым, але якасць доступу павялічваецца. Напрыклад, у Маскве паспяхова працуе гандлёвая марка «Стрым», якая належыць таму ж уласніку, што і мабільны аператар МТС. Яна займае палову сталічнага рынку шырокапалоснага інтэрнэту. Штомесячны плацеж за безлімітны доступ —$10,5 у эквіваленце за інтэрнэт хуткасцю 3072 Мбіт/с — 768 Кбіт/с (уваходзячы/зыхо-дзячы трафік). Пры падаражанні ўдвая хуткасць узрастае ў шэсць разоў.

### Украіна

Сітуацыя ва Украіне надзвычай падобная да беларускай. Тут на рынку працуе фактычны манапаліст «Укртэлекам», які нават па назве нагадвае нашыя рэаліі.

Праект «Ого!» прапануе безлімітны інтэрнэт за $6,25—7 у месяц з хуткасцю 5 Мбіт/с. Цікава, што ў розных гарадах уведзеная розная абаненцкая плата.

**Мабільны анлім**

У Беларусі з'явіліся першыя прапановы безлімітнага мабільнага інтэрнэту.

Прапанова ад МТС выглядае наступным чынам. Месячны пакет з хуткасцю 1 Мбіт/с каштуе 100 тысяч рублёў. Пасля выкарыстання 1 гігабайта за суткі хуткасць змяншаецца ў восем разаў, але ў наступныя суткі аднаўляецца.

«Лайф», у сваю чаргу, прапануе два варыянты: альбо 69 тысяч рублёў за 128 Мбіт/с, альбо 199 тысяч за 512 Кбіт/с.

### Латвія

Найбуйнейшы латвійскі аператар, Lattelecom, прапануе звышхуткасці для Рыгі і іншых вялікіх гарадоў. У іх можна атрымаць нават рэкордныя 200 Мбіт/с. Недарагая прапанова для астатняй краіны —2 Мбіт/с за $13.

### Польшча

Для нашых заходніх суседзяў Neostrada (з хуткасцю 6 Мбіт/с) ад Telekomunikacja Polska абыходзіцца ў $20.

Як бачна, кошт беларускага інтэрнэту нарэшце ўпаў да ўзроўню суседзяў — дапамагла дэвальвацыя. Але вось хуткасць усё яшчэ выглядае не настолькі аптымістычна ў параўнанні з еўрапейскай.

**Дзясяткі іншых правайдараў фактычна перапрадаюць трафік «Белтэлекама», таму не могуць даваць ніжэйшыя цэны.**

**Ягор Марціновіч**

**Радыёхвалі**

## Радыё «Рацыя» пашырае вяшчанне на тэрыторыі Беларусі

Цяпер яго **можна слухаць** у ваколіцах Ашмянаў і Ліды.

З 1 верасня па 30 лістапада беларускае радыё «Рацыя», якое знаходзіцца ў Беластоку, вяшчае на хвалях віленскага Radio znad Wilii.

Навіны, рэпартажы і інфармацыя з Беларусі і памежжа загучаць пабеларуску і для беларусаў на хвалі 103.8 FM у ваколіцах Вільні, Ашмянаў і Ліды. Пачатак трансляцыі ў 21:30 па мінскім часе.

Новым слухачам радыё «Рацыя» прапануецца аўтарскае чытанне новых, раней не выдадзеных частак культавай кнігі Уладзіміра Арлова «Адкуль наш род», таксама таямніцы і кур'ёзы жыцця кантрабандыстаў, сабраныя Віктарам Сазонавым, навіны, аналітычныя агляды і беларуская музыка.

Кругласутачна радыё «Рацыя» можна слухаць на ўсіх беларуска-польскіх памежпераходах, у гарадах і мястэчках Заходняй Беларусі.

**ЯМ**

**Газеты**

## Акно ў свет

Сусветнавядомыя газеты будуць друкавацца **непасрэдна ў Мінску**.

Гэта стала магчымым дзякуючы прыходу ў краіну сусветнага лідара па распаўсюджванні газет і часопісаў кампаніі NewspaperDirect.

Як паведамляе кампанія «Белінфацэнтр», якая з'яўляецца прадстаўніком NewspaperDirect, беларусам сталі даступныя свежыя нумары больш як 1.700 газет і часопісаў з 94 краін свету на 49 мовах, у тым ліку такія вядомыя сусветныя выданні, як The Times, Financial Times, The Guardian, The Wall Street Journal.

Раней друкаваная прэса прыходзіла са спазненнем на некалькі дзён, паколькі яе прывозілі з-за мяжы. Зараз сусветныя выданні друкуюцца прадстаўніком NewspaperDirect, кампаніяй «Белінфацэнтр», непасрэдна ў Мінску на ўласным абсталяванні. Свежыя нумары перыядычных выданняў дастаўляюцца беларусам па падпісцы раніцай у дзень выхаду нумара ў друк. Акрамя таго, сённяшнюю газету ці апошні нумар часопіса можна купіць у розніцу ў магазіне «Лексіс» у Мінску (Захарава, 21 — будынак МДЛУ).

**БелаПАН**

**Транспарт**

## Мінскае метро перайшло на зімовы графік

Начальнік службы руху метро Рыгор Якімкаў паведаміў, што 1 верасня Мінскі метрапалітэн перайшоў на зімовы графік працы.

У ранішнія гадзіны пік інтэрвал руху на першай лініі метро скароціцца да 2 хвілін. На другой (Аўтазаводскай) лініі ў ранішнія гадзіны пік цягнікі будуць рухацца з інтэрвалам 2 хвіліны, у вячэрнія — 2,5 хвіліны.

**БелаПАН**

## Аўтавакзал «Цэнтральны» пачынае працу з 10 верасня

Там можна будзе сесці на аўтобусы **ў напрамку Брэста і Гродна**.

З 10 верасня да аўтавакзала «Цэнтральны» пачнуць пад'язджаць некаторыя міжгародныя аўтобусы. Праўда, гаворка пакуль што не вядзецца пра паўнавартасную працу вакзала. Першы час аўтобусы будуць спыняцца ля яго, забіраць пасажыраў і адпраўляцца далей па маршруце.

З 26 верасня канчаткова адмяняецца заезд на дыспетчарскую станцыю «Дружная» аўтобусаў, якія выконваюць рэгулярныя рэйсы на тэрыторыю Брэсцкай і Гродзенскай абласцей. Аўтобусны тэрмінал міжгародніх і прыгарадных маршрутаў ДС «Дружная» спыняе сваю працу ў бліжэйшы час, пра што будзе паведамлена дадаткова.



Аўтавакзал «Цэнтральны» закрыўся на рамонт у 2007 годзе. Рэканструкцыя мусіла скончыцца да жніўня 2010 года, але, як заўжды, затрымалася. Аб'ём інвестыцый ацэньваўся ў $40 мільёнаў, а грошы на будоўлю далі ліваны.

**ЯМ**



JO-JO.RU

**Беларуска Ірына Ханунік-Рамбальская заваявала тытул «Супермадэль» на конкурсе «Місіс Сусвет», што прайшоў у Балгарыі. Паміж сабой спаборнічалі жанчыны з трыццаці краін. Перамагла венесуэлка. Ірына Ханунік-Рамбальская працуе на тэлеканале СТВ, вядзе перадачу «Вялікі сняданак».**



PHOTO BYMEDIA.NET

**Першы званок. 88 тысяч малых 1 верасня ўпершыню селі за школьныя парты. Працэнт дзяцей, што навучаюцца па-беларуску, зніжаецца штогод. Сёлета такіх будзе менш за 18%.**




**Цытаты з Янкі Купалы з'явіліся на вуліцах Гродна. Урывак з верша «Будзь смелым» з'явіўся ля Дома-музея Элізы Ажэшкі.**

## Анекдоты

Прыходзяць усе на круглы стол, а там толькі адно крэсла...

* * *

Колю аддалі ў вясковую школу толькі дзеля таго, каб мець ільготы пры паступленні.

* * *

Мікола Лукашэнка будзе абірацца старастам класа на неабмежаваную колькасць тэрмінаў.

* * *

Рэформа адукацыі цяпер залежыць ад школьных поспехаў Колі.

* * *

На фестывалі «Камяніца» ўваход у нацыянальных строях задарма. Во чаму міліцыянеры без білетаў праходзяць.

* * *

Міністры сабраліся ў прыёмнай кіраўніка дзяржавы, павіншаваць з днём нараджэння.

— Найлепшым падарункам для мяне была б антыкрызісная праграма.

— А мы ўжо гальштук купілі.

* * *

Дарагія дзяўчаты, не стойце на трасе! Дайце месца дзяўчатам патанней — крызіс жа!

* * *

Мой сябра — баксёр і юрыст. З ім спрачацца ўвогуле бессэнсоўна.



НАРОДНЫЯ НАВІНЫ ВІЦЕБСКА

**Кадэцкае вучылішча адкрытае ў мястэчку Лужасна пад Віцебскам. Прысягу кадэты прымалі пад Пагоняй — гербам Віцебскай вобласці.**

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Мінскай, Віцебскай і Магілёўскай губернях** уведзена выбарчае земскае самакіраванне. Выбарнае яно-та выбарнае, але ж толькі тым станам ці нацыям, каторых менш, далі ў ім больш галасоў, а ад найвялікшага стану мужыкоў — прадстаўнікоў мала. Але ж гэта ўжо зроблена, і цяпер перарабіць скора не прыдзецца.

**«НН». № 33. 1911.**

**Парушэнні выбарчага заканадаўства і дыскрымінацыя апазіцыйнага кандыдата набылі нечуваных размах.** Лік разгромленых апазіцыйных асяродкаў ідзе на дзясяткі, колькасць затрыманых агітатараў перавысіла 300. Канфіскоўваліся тыражы газет «Рабочы», «Прэзідэнт», «Наша свабода», «Свабоднае слова». Таму выбары наўрад ці будуць прызнаныя міжнароднай супольнасцю свабоднымі, а абраны прэзідэнт — законным. І Лукашэнка не можа не ведаць гэтага. Значыць, ідзе на нелегітымнасць свядома.

**«НН». №36. 2001.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7585. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 06.09.2011.
Замова №4302.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 11033